№ 6(29)/2000



# Беларускія Ведамасьці

ВАРШАВА, верасень-кастрычнік 2000 г.

**НЕ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА — ГАЛОЎНАЕ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ, А НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І СВАБОДА, БО НЕ БЫВАЕ „ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА" ПАД АКУПАЦЫЯЙ.**

*Помнік ахвярам бальшавізму ў вёсцы Чарнагубава (Капыльскі раён)*

## ПОМНІК У ВЁСЦЫ ЧАРНАГУБАВА

З 1996 года стаіць гэты незвычайны помнік у вёсцы Чарнагубава Капыльскага раёна. Паставілі яго людзі ў памяць аднавяскоўцаў — ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсіяў. На адной з памятных дошчак гэта адзначана: ***„Сялянам і былой шляхце вёскі Чарнагубава — ахвярам палітычных рэпрэсіяў."*** А побач словы паэта Сяргея Грахоўскага з „Чарнагубаўскай малітвы":

Мы тут жылі, касілі і аралі,
А нас, невінаватых, пакаралі
За тое, што Зямлю і Вас любілі,
Нас больш за паўсотні сейбітаў забілі
У страшны 37 год...
Жыві і сьцеражыся, наш народ.

Унізе таксама на дошках пералічаныя прозьвішчы (больш за 60), закатаваных у сталінскіх лягерах вяскоўцаў. Як кажуць мясцовыя жыхары, у 2-ю Сусьветную вайну загінула менш чарнагубаўцаў, чым у 30-я гады пад бальшавікамі.

Ёсьць у Чарнагубаве месца, куды могуць прыйсьці дзеці і ўнукі загінуўшых, каб памянуць і ўшанаваць іхную памяць. Беларусы ніколі не забудуць пра генацыд. Хто памятае — жыве вечна.

***Яўген ШАТОХІН***

# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСАЎ

Дарагія землякі! Выбары 15-га кастрычніка нічога добрага не дадуць. Нічога не пераменіцца. Стане горай.

Сутнасьць выбараў у тым, каб узаконіць уладу Лукашэнкі. У гэтым зацікаўленыя Масква і немцы. Масква хоча, каб яе прэтэнзіі на Беларусь і дамовы, якія яна заключыла з Лукашэнкам, зацьвердзіла паслушная ёй новая легальная „палата".

Немцы, у асобе кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка, дапамагаюць Маскве загнаць Беларусь у Расею ўзамен на гарантыі і павелічэньне паставак таннага газу і нафты з Расеі праз Беларусь. Пра гэта 25 верасьня на канфэрэнцыі ў Беластоку цынічна паведаміў спадар Ганс Вік.

Паўтара гады таму, ў час візыту канцлера Шродэра ў Маскву, пра расейска-нямецкую змову супраць Беларусі прагаварыўся Ельцын.

Беларусь зьяўляецца аб'ектам рэалізацыі нямецка-маскоўскай палітыкі перадзелу Ўсходняй Эўропы. Нашую краіну лічаць разьменнай манэтай паміж Масквой і Бэрлінам.

Менавіта праз іх ідзе фінансаваньне так званай „балотнай дэмапазіцыі" ў Беларусі і ўцягваньне яе ў выбары. „Дэмакратам" прапануюць па пяць тысячаў даляраў толькі за тое, каб яны ўдзельнічалі ў выбарах. І многія прадаліся.

*Можна па-рознаму адносіцца да дэмакратычных „гэрояў", але беларусы павінны памятаць, што людзі, схільныя прадавацца за грошы ў палітыцы, маніпуляваць грамадзтвам, імітаваць „маршы" і весьці іх у балота дзеля інтарэсу сваіх спонсараў — гэтыя людзі ніколі не павінны быць ва ўладзе. Адзін раз яны ўжо пакарысталіся народам і прывялі на пасад Лукашэнку. Цяпер гэтыя разумнікі хочуць увайсьці зноў у тую ж ваду і на сьпіне беларусаў вярнуцца наверх, ськінуўшы Лукашэнку.*

Іх зноў падтрымае Масква-Бэрлін, каб, імітаваўшы перамены, паставіць такога ж самага — свайго. Менавіта гэтак сталася ў Югаславіі. Усяго 34 мільёны даляраў патраціў лібэральны Захад, каб прывесьці да ўлады Каштуніцу. У Масквы ж на падобныя справы — мільярды. Ня хопіць — папросяць у немцаў.

Мы павінны ведаць, што лібэральная Эўропа падтрымае любога маскоўскага стаўленьніка на Беларусі, калі толькі Масква рашыцца замяніць Лукашэнку. Гульня з такімі людзьмі, як Чыгір, Лябедзька, Статкевіч ды іншыя — несур'ёзная (дзеля займаньня публікі ў антракце), як несур'ёзная ўся гэтая створаная Г.Вікам гнілая і прадажная „аб'яднаная апазыцыя". Рыхтуецца чалавек з асяроддзя рэжыму, якому асьцярожна ствараюць імідж незалежнага, самастойнага, апазыцыйнага.

Беларусам нельга зноў трапіць у тую ж пастку, што і ў 1994-м годзе. Мы ня Сэрбія, дзе дыктатура ёсьць адлюстраваньнем унутраннага канфлікту. Мы — краіна акупаванай улады з антыбеларускім прамаскоўскім рэжымам. ***Пытаньне зьмены ўлады для нас — гэта пытаньне дзяржаўнай незалежнасьці і нацыянальнага існаваньня.*** Калі мы не забясьпечым незалежнасьці Беларускай дзяржавы і свабоднага існаваньня Беларускай нацыі, то ўсё астатняе — дэмакратыя, правы чалавека і г.д. — ня маюць ужо ніякага значэньня. Яны перастануць існаваць, бо нас выніщчаць усходнія варвары і заходнія „дэмакраты", тыпу спадара Віка.

Я зьвяртаюся да ўсіх беларусаў, і асабліва да адміністрацыі, дзяржаўных палітыкаў, кіраўнікоў, сяброў выбарчых камісіяў: не спрыяйце Лукашэнку фальсіфікаваць галасаваньне і праводзіць незаконныя выбары. Не падтрымлівайце яго ўладу. Гэта ўжо скончаны суб'ект. Яго зьмена ва ўладзе — пытаньне нядоўгага часу.

Мы, беларусы, мусім паразумецца. Мусім зьяднацца. Мы павінны супрацьставіцца новай палітыцы „Рыбентропа-Молатава", захаваць нашу незалежнасьць і зьберагчы дзяржаву, бо інакш — пацерпяць усе.

У Беларусі захаваўся мэханізм законнага аднаўленьня ўлады. Законныя выбары павінен аб'явіць і правесьці законны Вярхоўны Савет, законны Выканаўца функцыяў прэзыдэнта і законная Цэнтральная выбарчая камісія. (І толькі ў гэтым будзе заключацца іхняя задача.)

Лукашэнка мусіць адыйсьці ад улады пад ціскам грамадзтва і асяроддзя. Ён утрымлівае ўладу незаконна. Трэба запатрабаваць яго зыход. Ён адыйдзе, калі атрымае выбар і гарантыі бясьпекі.

Тады беларусы — за адзін стол. Дзяржаўная ўлада павінна быць у беларусаў. ***Мы — беларусы — ёсьць і павінны быць гаспадарамі на сваёй зямлі.*** І не прыблуды ды акупанты стануць намі кіраваць.

Вось магчымасьці, якія даюць праўнае абгрунтаваньне і ініцыятыву беларусам, а не антыбеларускаму рэжыму ды нямецкім дыплёматам з АБСЭ, што наладжвалі „перамовы" ды „дыялёгі" з рэжымам, каб паралізаваць Беларускі Вызвольны Рух і „дэмакратызаваць" Лукашэнку, здаўшы ўсіх у Расею.

Беларус, які ў цяперашніх абставінах будзе прэтэндаваць на пасаду беларускага прэзыдэнта, павінен мець адну несумненную і гарантаваную якасьць. Ён абавязаны быць беларускім патрыётам. Гэта значыць, што грамадзтва мусіць мець упэўненасьць, што ён ня здрадзіць і не папусьціць Беларусь ні Расеі, ні нямецкім падкопам з Эўропы.

Прытым гэтая якасьць павінна быць палітычным капіталам, а не кан'юнктурнай дэкларацыяй. Кандыдат беларусаў мусіць валодаць гэтакім капіталам, а не выскокваць з заявамі, як з Масквы Чыгір.

Мы разумеем, што абараніцца беларусам ад нямецка-расейскай змовы — рэч няпростая. Але тады, калі мы былі моцнымі і скансалідаванымі, — мы абараняліся пасьпяхова і перамагалі. (Успомнім Грунвальд і Воршу.)

Каб стаць моцнымі, мы мусім аднавіць перш за ўсё нашу Беларускую Салідарнасьць. Гісторыя дае нам такі шанец. Мы ня можам яго змарнаваць.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага***
***Фронту „Адраджэньне"***

*11 кастрычніка 2000 г.*

# ЗАЯВА

Беларусь перажывае драматычны пэрыяд сваёй гісторыі. *Дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ў хаўрусе зь ягонымі маскоўскімі гаспадарамі рыхтуе канчатковую здачу Беларускай дзяржавы ў Расейскую імпэрыю.* На гэта скіраваныя ўсе дэструктыўныя палітычныя акцыі крамлёўскіх каляніялістаў і падпарадкаванага ім марыянэткавага менскага рэжыму. Расея вядзе эканамічную і інфармацыйную вайну супраць Беларусі. Адной з праяваў першага этапу акупацыі ёсьць увядзеньне ў апошнія месяцы масы расейскіх чыноўнікаў, гаспадарчых і ваенных кіраўнікоў у кіраўнічыя структуры Беларусі ўсіх узроўняў. Так **расейцы складаюць ужо 90% ураду Беларусі, абсалютную большасьць афіцэрскага корпусу арміі і сілавых структураў**. Для зьнішчэньня незалежнай Беларускай дзяржавы заплянавана легітымізацыя гэтых акупацыйных працэсаў, сфармуляваных у злачынных дамовах „аб стварэньні саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі", якія былі падпісаныя **нелегітымным псэўданрэзыдэнтам А.Лукашэнкам** і „ратыфікаваныя" **нелегітымным псэўдапарлямантам беларускага дыктатара**. Менавіта з мэтай легітымізацыі зьнішчэньня Беларускай дзяржавы і інкарпарацыі яе ў склад Расейскай Фэдэрацыі (Расейскай імпэрыі) і падрыхтаваны праект выбараў у „палату прадстаўнікоў" (кішэнны псэўдапарлямант дыктатара, які ня мае ніякіх правоў) у кастрычніку гэтага году.

Псэўдапарлямант, абраны ва ўмовах дыктатуры і нахабнага дамінаваньня акупацыйных сілаў Расеі ў Беларусі, безумоўна, выканае загад дыктатара і, ў выпадку падтрымкі Захаду, надасьць легітымнасьць дыктатарскаму рэжыму, а што самае галоўнае, легітымізуе зьнішчэньне незалежнай Беларускай дзяржавы і яе інкарпарацыю ў склад Расеі. Пасьпяховае завяршэньне гэтага праекту прывядзе да катастрафічных наступстваў.



*Генэральны Пракурор Беларусі Рыгор Пракаповіч*

***Значная, найбольш актыўная частка беларускага грамадзтва ніколі не пагодзіцца з расейскай акупацыяй і будзе бараніць незалежнасьць і свабоду Айчыны ўсімі спосабамі.*** Ціхага ўдушэньня Беларусі не адбудзецца. Народ Беларусі не прызнае вынікаў новай мюнхенскай змовы. Эўрапейская супольнасьць атрымае яшчэ адзін косаўскі крызіс. Стабільнасьць у Беларусі і ў Эўропе залежыць ад таго, ці змогуць эўрапейскія дэмакратычныя краіны і агульнаэўрапейскія інстытуты спыніць працэсы па акупацыі Беларусі, якія праводзіць Расея.

Дэмакратычная грамадзкасьць Беларусі са зьдзіўленьнем назірае, як некаторыя палітычныя колы Заходняй Эўропы, асабліва нямецкая дыпляматыя, спрыяюць расейскай акупацыйнай палітыцы ў Беларусі. *Адным з інструмантаў гэтай антыбеларускай палітыкі актыўна праявіла сябе кансультвцыйна-назіральная група АБСЭ ў Менску, якую ўзначальвае нямецкі дыплямат сп.* **Г. Г. Вік**. КНГ АБСЭ актыўна ўключылася ў працэс падрыхтоўкі выбараў у псэўдапарлямант дыктатара. Сп.Вік і ягоныя супрацоўнікі езьдзяць па ўсёй Беларусі, арганізуючы прапагандысцкую і падрыхтоўчую кампанію да псэўдавыбараў. Праз АБСЭ выдзеленыя значныя сродкі на прапаганду выбараў і падрыхтоўку назіральнікаў. Складваецца ўражаньне, што АБСЭ спрыяе працэсам акупацыі Беларусі і пашырэньню Расейскай імпэрыі. Вынікам такіх дзеяньняў можа быць толькі глыбокі палітычны крызіс у нашай краіне і дэстабілізацыя становішча ва ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Эўропе.

Цяжка паверыць, што КНГ АБСЭ ня ведае аб тым, што дыктатарскі рэжым ня выканаў аніводнай умовы прызнаньня вынікаў выбараў, выстаўленых міжнароднай супольнасьцю. Безумоўна, ведае. І дзейнічае сьвядома.

У сувязі з гэтым **мы патрабуем**:

— спыніць дзейнасьць КНГ АБСЭ па прапагандзе і падрыхтоўцы псэўдавыбараў;

— не прысылаць у Беларусь міжнародных назіральнікаў на псэўдавыбары ў кастрычніку 2000 г.;

— зьмяніць кіраўніка КНГ АБСЭ ў Менску; сп. Вік свае магчымасьці ў Беларусі вычарпаў.

***Беларускі Народны Фронт „АДРАДЖЭНЬНЕ" і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ***

*25 жніўня 2000 г.*

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ГЕНЭРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА БЕЛАРУСІ

11 кастрычніка Генэральны Пракурор Беларусі ***Рыгор Пракаповіч*** зрабіў на радыё „Свабода" паведамленьне:

„Прыступіўшы да выкананьня сваіх службовых абавязкаў праз некаторы час, няўхільна выконваючы патрабаваньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г., а таксама ў адпаведнасьці з нормамі крымінальнага працэсуальнага закона, я як Генэральны Пракурор 1-га сьнежня 1999 г. узбудзіў сваю першую, і мабыць самую галоўную на гэты час, крымінальную справу. Яна ўзбуджана па артыкуле 61-м,1, часткі 2 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь і прадугледжвае адказнасьць за захоп дзяржаўнай улады ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам. Справа ўзбуджана па факце і папярэдняе сьледства праводзіцца ў адносінах да прадстаўнікоў усіх трох былых галінаў улады, якія нават і цяпер падпарадкоўваюцца былому прэзыдэнту, а на сёньняшні момант — ужо проста грамадзяніну **Аляксандру Лукашэнку**."

На пытаньне „Як ён ацэньвае выбары ў „нацыянальны сход" Беларусі" Рыгор Пракаповіч адказаў: „Адно зноў магу пацьвердзіць: гэта справа абавязкова будзе мець судовую пэрспэктыву, а вінаватыя — пакараныя."

# РАСЕЙСКА-НЯМЕЦКІ ХАЎРУС — ПАГРОЗА БЕЛАРУСІ

*(Зянон ПАЗЬНЯК. Ліст да сяброў Беларускага Народнага Фронту „АДРАДЖЭНЬНЕ" на Сойм БНФ 14 кастрычніка 2000г.)*

Трэба прызнаць, што інфармацыйная блякада беларускага адраджэньня дае свае паганыя вынікі. Ужо хутка год, як мы (Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне") змагаемся зь нямецка-расейскай палітыкай на Беларусі, а яна прадаўжаецца, нахабна і адкрыта, пры поўным паралічы так званых „элітаў" грамадзтва. Мы ня маем сваіх беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Трэба інтэнсіўна выкарыстоўваць іншыя інфармацыйныя магчымасьці.

Аб антыбеларускай дзейнасьці **Ганса Георга Віка** на Беларусі. Выдаленьне Г.Віка зь Беларусі зьяўляецца абавязкавым. Трэба спыніць яго падрыўную дзейнасьць і ўсіх яго хаўрусьнікаў зь нямецкага, расейскага і беларускага боку.

У канцы верасьня ў Беластоку адбывалася невялікая міжнародная канфэрэнцыя. На яе чамусьці прыехаў Ганс Вік і зрабіў даклад, дзе сказаў, што Эўропа хоча, каб Беларусь адышла пад Расею, бо Расея, як яны, немцы, лічаць, больш дэмакратычная. Сказаў, што яны ў АБСЭ працуюць над гэтай задачай ужо некалькі гадоў. Цаной за паглынаньне Беларусі пры дапамозе Эўропы павінна стаць гарантыя таннай дастаўкі расейскіх энэрганосьбітаў (нафты і газу) у Нямеччыну.

У нармальнай краіне гэтага „дыплямата" неабходна было б адразу выдаліць зь Беларусі за падрыўную антыдзяржаўную працу. Аднак існуе пэўны ўзровень супрацоўніцтва нямецкай дыпляматыі з рэжымам Лукашэнкі.

Прасіў бы зьвярнуць увагу таксама, што акурат у гэты час, калі ў Беластоку зьявіўся Г.Вік, пачаліся хваляваньні ў Югаславіі і ў Маскву тэрмінова вылецеў канцлер Нямеччыны Шродэр, дзе меў шматгадзінную размову з Пуціным. Цынічнае прызнаньне Віка ў Беластоку аб плянах здачы Беларусі расейскім імпэрыялістам пацьвярджае зьвесткі пра тое, што ў Маскве Шродэр гандляваўся з Пуціным, вымагаючы ад яго неўмяшаньня ў белградзкія падзеі і здачы ўлады Мілошавіча ўзамен за здачу Захадам Беларусі пад Расею.

Падобна на тое, што Пуцін са Шродэрам дамовіліся, і трэба было засьведчыць Маскве, як нямецкая дыпляматыя ў Беларусі добра дбае пра расейскія інтарэсы. З гэтай мэтай у Беласток тэрмінова паехаў Ганс Вік і сказаў, што трэба. (Сказанае ім не было ляпсусам разьведчыка, але выкананьнем заданьня.)

Дапамагаць Г.Віку ў Менск прыязджаў з Варшавы нават кіраўнік Варшаўскай місіі АБСЭ немец спадар Штудман (ён вёў перамовы з адміністрацыяй Лукашэнкі пра падрыхтоўку дэманстрацыі „балотнай апазыцыі"). А ў пятніцу (13.10.) нечакана для апазыцыйных статыстаў у Менск прыляцела вялікая група назіральнікаў за выбарамі ад Эўрапарляманту пад кіраўніцтвам немкі Элізабэт Шротэр (хоць увесь час гаварылася, што назіральнікаў не прышлюць і г.д.). Варта прыпомніць яшчэ і нядаўнюю заяву кіраўніцы АБСЭ аўстрыйскай немкі Бэніты Фэрэра Вальднэр аб „дэмакратызацыі" рэжыму Лукашэнкі.

Нагадаем таксама, што вясной 1999 г. канцлер Шродэр меў візіт у Маскву і перамаўляўся зь Ельцыным. Адразу пасьля перамоваў Ельцын прагаварыўся па тэлебачаньні, што яны дамовіліся са Шродэрам разам „прапіхваць" Беларусь (г.зн. рэжым Лукашэнкі) у міжнародныя структуры.

У рэчышчы такой палітыкі зразумелай становіцца дзейнасьць АБСЭ і нямецкай дыпляматыі, якая апанавала гэтую міжнародную арганізацыю і выкарыстоўвае яе ў сваіх інтарэсах. Яны хочуць паказаць Захаду становішча такім чынам, што быццам бы рэжым Лукашэнкі „дэмакратызуецца". Яны рыхтуюць яго легалізацыю.

З гэтай мэтай спадар Вік і яго хаўрусьнікі шмат паспрыялі таму, каб зьнішчыць беларускі адраджэнцкі рух, разваліць Беларускі Народны Фронт і стварыць у Беларусі так званую „аб'яднаную апазыцыю" *без беларускага нацыянальна-вызвольнага аблічча.*

Маргінальная канцэпцыя так званых „перамоваў" і „дыялёгаў" была распрацаваная для кішэннай „дэмапазыцыі" тым жа спадаром Вікам і павінна была спрыяць уцягненьню дэмпартыяў у лукашэнкаўскія выбары, каб рукамі кішэннай апазыцыі легалізаваць рэжым (дзеля гэтага ўвялі туды камуністаў і белжырыноўцаў).

Пры гэтым спадар Вік, з аднаго боку, казаў пра недэмакратычнасьць рэжыму, пра невыкананьне ім патрабаваньняў АБСЭ, пра немагчымасьць выбараў. Адначасна Ганс Вік і паплечнікі ўсё рабілі, каб прымусіць прыняць удзел у недэмакратычных выбарах. На гэта выдаткавалі вялікія грошы, асабліва на сацыял-дэмакратычную партыю „Народная Грамада" (М.Статкевіча), ужываецца адкрыты подкуп беларускіх дэмпалітыкаў. 29-га верасьня гэтага года ў Вільні дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня сацыял-дэмакрат Павел Знавец прылюдна паведаміў, што яму тройчы прапаноўвалі пяць тысячаў даляраў, каб ён пагадзіўся выставіць сваю кандыдатуру на незаконныя выбары.

З гэтых жа нямецка-расейскіх крыніцаў фінансуюцца іншыя кандыдаты і кантралёры. Адначасна нямецкія палітыкі з АБСЭ стараюцца стварыць ураженьне „дэмакратычных" абставінаў у Беларусі напярэдадні выбараў, фінансуюць розныя пустапарожнія „маршы" ў балота, каб была бачнасьць ляяльнасьці рэжыму і г.д. (што датычыць ляяльнасьці балотнай апазыцыі, то мы далі ўжо ёй правільную ацэнку і адмежаваліся).

* * *

Тое, што робіць расейска-нямецкая „дыпляматыя" і іхныя функцыянэры на Беларусі сьведчыць аб падрыхтоўцы новага пакту „Рыбентропа-Молатава". І справа ня толькі ў нафце, у трубах, у Газпраме ды Ргугазе. У нямецка-расейскай палітыцы Беларусь (як і Польшчу) лічаць за разьменную манэту сваіх інтарэсаў (якія сутыкаюцца акрамя Беларусі яшчэ ў Прусіі і на Бальканах). Менавіта немцы (Ёшка Фішар) выступаюць за ператварэньне аб'яднанай Эўропы ў фэдэратыўную супэрдзяржаву з наддзяржаўнымі органамі, дзе немцы (і Дойчэ Банк) будуць мець дамінуючую ролю.

Я ўжо пісаў, чаго можна спадзявацца ад Эўрапейскай звышдзяржавы таталітарнай дэмакратыі, дзе дэмагогія пра „правы чалавека" становіцца вышэй за дзяржаўны суверэнітэт нацыі *(гл. „Беларускія Ведамасьці" №4(27)2000).* Гэта дзьверы ў вайну і ў новае варварства.

Савецкія інтэгратары-кагэбісты ў Расеі і нямецкія інтэгратары-сацыял-дэмакраты, як бачым, знаходзяць узаемапаразуменьне. Яны зноў дзеляць Эўропу на сфэры свайго ўплыву.

Нядаўна ў Польшчу прыязджаў брытанскі прэм'ер Тоні Блэр, каб засьведчыць сваю нязгоду зь нямецкай пазыцыяй адносна дзяржаўна-фэдэральнай будучыні аб'яднанай Эўропы. Гэта павінна быць моцная Эўропа суверэнных дзяржаваў, а не звышдзяржава — заявіў Блэр.

Я спасылаўся на гэтыя факты не для таго, каб паказаць, як эўрапейская палітыка ходзіць старымі дарожкамі, а дзеля таго, каб мы разумелі, што нямецка-руская палітыка супраць Беларусі — гэта яшчэ ня руска-эўрапейская палітыка. І тым больш ня руска-амэрыканская.

Дададзім, што Маскоўска-Бэрлінскія дзеяньні (у выпадку захопу Расеяй Беларусі) маюць вельмі дрэнную пэрспэктыву. Пасьля здачы Беларусі ўзьнікне пытаньне Прыбалтыкі, Украіны і былой Усходняй Прусіі, якое асабліва можа абвастрыцца пасьля ўступленьня Польшчы ў Эўрапейскі Зьвяз. (Немцы атрымаюць рэальны доступ да былых прускіх земляў — магчымасьць набываць іх ва ўласнасьць. Свабодны продаж зямлі — гэта ўмова ўступленьня ў Эўразьвяз.)

***Лібэральна-дэмакратычны таталітарызм у Заходняй Эўропе, памножаны на глябалізацыю, такі ж небясьпечны для свабоды народаў, як і ўсялякі таталітарызм, як былы камунізм і цяперашні кагэбізм у Расеі.***

Мы, беларусы, павінны разумець, што і праблемы правоў чалавека, і выбары, і русіфікацыя, і этнацыд, і подкуп часткі апазыцыйна настроенага грамадзтва, і ўсё, што адбываецца цяпер у палітыцы на Беларусі — гэта ёсьць вынік заборчай палітыкі рускага вялікадзяржаўнага шавінізму і нямецкага супрацоўніцтва зь ім за передзел Усходняй Эўропы і сфэраў уплыву.

Гэты геапалітычны сцэнар так часта паўтараецца ў гісторыі, што выглядае брыдкім фарсам, які можа мець аднак зноў трагічны і крымінальны фінал.

Калі б Захад прызнаў бы незаконныя і недэмакратычныя выбары 15 кастрычніка ў Беларусі легальнымі, то гэта азначала б, што новы пакт „Рыбентропа-Молатава" адбыўся і нас, беларусаў, ашукалі і прадалі.

Цяпер трэба ставіць патрабаваньне аб зыходзе Лукашэнкі. **„ЛУКАШЭНКА, ЗЫХОДЗЬ!"** — вось галоўны лёзунг, пад якім павінен адбывацца грамадзкі націск на рэжым.

Другі лёзунг: **„ЗАКОННЫЯ ВЫБАРЫ — ЗАКОННАМУ ПАРЛЯМАНТУ!"**

Вярхоўны Савет, Выканаўца функцыяў Прэзыдэнта Сымон Шарэцкі і законная Цэнтральная Выбарчая Камісія павінны толькі аб'явіць і правесьці выбары. Гэта іхняя адзіная задача.

Такім чынам, ёсьць мэханізм. Яго неабходна ўрухоміць. Ён дае магчымасьць узяць ініцыятыву. Мы павінны выставіць такую канцэпцыю зьмены вярхоўнай акупацыйнай улады, якая б аб'яднала ўсіх беларусаў (у тым ліку і ў сістэме ўлады).

У гэтым сэнсе вельмі важнае значэньне набывае стварэньне самакіраваньня (дзе магчыма), і перш за ўсё — ***Грамадзянскага Парляманту***. Павінен быць *грамадзянскі орган і мэханізм беларускай кансалідацыі і салідарнасьці.* Палітычныя ідэі мусяць мець арганізаваную падтрымку ў грамадзтве.

Складанасьць і небясьпека сітуацыі ў тым, што Масква і яе хаўрусьнікі ў Эўропе разглядаюць варыянт прамаскоўскай альтэрнатывы Лукашэнку з разьлікам усіх ашукаць і выехаць на беларусах гэтак жа, як выехалі на сэрбах, зрабіўшы ракіроўку ў Югаславіі (замена Мілошавіча на Каштуніцу).

Падобна на тое, што Масква рыхтуе на магчымую альтэрнатыву надзейнага чалавека з асяроддзя рэжымнай намэнклятуры і

неўзаметку ствараюць яму імідж самастойнага палітыка. Тое, што „надзейны чалавек" (без хваравітых амбіцыяў) здасьць Беларусь Маскве хутчэй, чым Лукашэнка, можна не сумнявацца, тым больш, што ў яго будзе характарыстыка нязгоднага з Лукашэнкам.

Паводзіны Эўрасаюзу, АБСЭ, Эўрапарляманту, Віка, немцаў у цяперашніх падзеях нас не павінны зьдзіўляць. Мы ўвесь час казалі пра тое, што яны робяць сваю палітыку ў Беларусі. Яны могуць нас падтрымаць, калі ім будзе выгадна, альбо аддаць на зьнішчэньне, як чачэнцаў, калі ім абараняць беларусаў стане нязручна. Яны такія. Гэта ў іх называецца „рэальпалітык" — прагматычная палітыка. Яны вышукваюць і плодзяць такіх, як самы. Яны нясуць у Беларусь разбэшчанасьць і здраду, а не дэмакратыю.

Сваё нацыянальнае беларускае жыцьцё і сваю будучыню мы мусім уладкоўваць самы. Усё залежыць ад нас. Трэба дзейнічаць. Нельга доўга стаяць на беразе.

Цяпер выразна выявіліся вынікі разбуральнай працы заходніх прагматыкаў тыпу спадара Віка. Стала добра відаць, што так званая „аб'яднаная апазыцыя" і ўсё балота, якое яны тут стварылі, патраціўшыся на капейкі, — гэта, як бачым, ніякая не „палітычная сіла", а грамадзкае сьмецьце, выпарэньне, якое тут жа разьвеецца, як толькі спыніцца ў іх патрэба і зьнікнуць гэтыя разьмененыя на іх грошы.

Сумная карціна. Але, на жаль, гэта рэальнасьць. Такое ня раз здаралася ў беларускай гісторыі. Мы павінны зыходзіць з рэальнасьці.

На мой погляд варта на Сойме прыняць заяву аб зыходзе Лукашэнкі і аб неабходнасьці законных выбараў.

Трэба засьведчыць неабходнасьць аб'яўленьня **Ганса Георга Віка пэрсонай нон-грата** і асобай, якая траціць праўную абарону ў Беларусі. Неабходна патрабаваць ад АБСЭ, Бундэстага і МЗС Нямеччыны адклікаць яго зь Беларусі.

...Прыярытэтам нашай палітыкі для гэтага моманту прапаную прызнаць:

*— патрабаваньне зыходу Лукашэнкі; законныя выбары праз законныя органы ўлады; арганізацыя грамадзкага ціску;*

*— стварэньне ГРАМАДЗЯНСКАГА ПАРЛЯМАНТУ;*

*— выбары прэзыдэнта (адзіны кандыдат ад Беларускага Вызвольнага Руху і адзіная альтэрнатыва).*

„Балотная апазыцыя" скампрамэтавала і фактычна разбурыла франтаўскую форму вулічнай барацьбы. Трэба зьвярнуць увагу на масавасьць і новую форму правядзеньня *Дзядоў*.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ „Адраджэньне" і***
***Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ***

# САМАЯ МАГУТНАЯ ЗБРОЯ МАСКВЫ

Галоўны лекар Менскага наркалягічнага дыспансэру ***Сяргей Малочка*** правёў 3 кастрычніка прэсавую канфэрэнцыю для журналістаў.

Падчас прэс-канфэрэнцыі С.Малочка расказаў пра катастрафічную сітуацыю са спажываньнем алькаголю ў Беларусі. „У Беларусі спажываньне алькагольных напоеў складае 11 літраў на душу насельніцтва ў год, — паведаміў спадар Малочка. — У Расеі гэтая лічба складае 9 літраў на чалавека. На Ўкраіне — 4,5 літра. **Паводле Ўсясьветнай арганізацыі аховы здароўя 8 літраў алькаголю ў год на чалавека — гэта парог, вышэй за які пачынаецца выраджэньне нацыі.**

У Беларусі колькасьць асобаў, якія стаяць на ўліку як хворыя на алькагалізм складае 174 тысячы чалавек. У Менску гэта прыблізна 32 тысячы чалавек. Але гэтыя лічбы, на мой погляд, не адллюстроўваюць нічога..."

Спадар Малочка паскардзіўся на ўмовы, у якіх працуюць лекары-нарколягі. У Беларусі няма ніводнай навуковай установы для падвышэньня кваліфікацыі ў сфэры наркалёгіі. Беларускім нарколягам не фінансуюць падвышэньне кваліфікацыі ў іншых краінах. Штатны склад нарколягаў быў зацьверджаны яшчэ ў 1976 г. і дагэтуль не павялічваўся, у той час, як колькасьць грамадзянаў, хворых на алькагалізм, істотна падвысілася.

На думку спадара Малочкі, новая дзяржаўная антыалькагольная праграма не атрымае адпаведнага фінансаваньня з боку дзяржавы. У праграме не прадугледжаныя зьмяненьні цэнаў на алькагольныя вырабы.

Адносна лячэбна-працоўных прафілякторыяў (ЛПП) сп. Малочка сказаў, што ён ня лічыць такія ўстановы лячэбнымі. ЛПП цяпер выкарыстоўваюцца для ізаляцыі хворых на алькагалізм людзей, якія сацыяльна небясьпечныя. Гэта не лячэбная, а працоўная тэрапія.

***(Г.С. Паводле Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода")***

# „ПАЛАТНЫЯ ВЫБАРЫ"

*(некаторыя матэрыялы)*

*З заявы намесьніка прэс-сакратара*
*Дзяржэпартаманту ЗША Філіпа Рыкера (вытрымкі)*

■ Злучаныя Штаты падтрымліваюць меркаваньне сваіх эўрапейскіх партнэраў аб тым, што выбары 15 кастрычніка ў Беларусі не былі свабоднымі, справядлівымі і празрыстымі. Тэхнічная місія Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека АБСЭ і Эўрапейскай Парляманцкай Тройкі зрабіла выснову, што адзначаныя выбары не адпавядалі міжнародным нормам дэмакратычных выбараў. *Злучаныя Штаты не прымаюць вынікаў гэтых выбараў і будуць працягваць прызнаваць дэмакратычна абраны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, які ўзначальвае Сымон Шарэцкі, як легітымны парлямант Беларусі.*

Свабодныя, справядлівыя і празрыстыя выбары не вызначаюцца выключна бесперашкодным галасаваньнем у дзень выбараў. Такое галасаваньне — толькі частка працэсу, зь якога складаюцца дэмакратычныя выбары (гэты працэс абавязкова павінен уключаць бесперашкодную передвыбарчую кампанію са свабодным абменам думак.Нягледзячы на неаднаразовыя заклікі Злучаных Штатаў, ЭС і АБСЭ стварыць клімат, неабходны для такой кампаніі, беларускія ўлады не прадэманстравалі заўважнага прагрэсу ў гэтым накірунку.

У дзень выбараў зьяўляліся паведамленьні аб шматлікіх парушэньнях, якія сьведчаць аб фальсіфікацыі з боку рэжыму...

Злучаныя Штаты глыбока шкадуюць аб тым, што беларускія ўлады праігнаравалі жаданьне ўсё большай колькасьці беларускіх грамадзянаў вярнуца да дэмакратыі, і рашуча асуджаюць значныя парушэньні, дапушчаныя рэжымам Лукашэнкі падчас выбараў. Прэзыдэнцкія выбары, заплянаваныя на наступны год, павінны прайсьці без такіх парушэньняў, інакш яны таксама могуць не атрымаць прызнаньня міжнароднай супольнасьці.

■ Вольфганг Бэрэндт, дакладчык па Беларусі Парляманцкай Асамблеі Рады Эўропы, зрабіў заяву на прэс-канфэрэнцыі ў Менску. У ёй гаворыцца, што „статус Беларусі як краіны, спэцыяльна запрошанай ў Раду Эўропы, які быў прыпынены пасьля рэфэрэндуму 1996 г., ня будзе адноўлены бліжэйшым часам, бо парляманцкія выбары ў краіне не адпавядалі мінімальным крытэрыям гэтай арганізацыі".

■ Шматлікія парушэньні падчас „выбараў" зафіксавалі беларускія назіральнікі ў Віцебскай вобласьці. Назіральнікаў адмовіліся рэгістраваць у Бешанковіцкім раёне. У Пастаўскім раёне на трэці дзень датэрміновага галасаваньня назіральнікаў выдалілі з выбарчага



*„Пятая калёна" Расеі — электарат Лукашэнкі*

ўчастку. Дзякуючы адсутнасьці назіральнікаў, была забясьпечана „высокая актыўнасьць" выбаршчыкаў. На ўчастку №21 прагаласавала датэрмінова 40% выбаршчыкаў (!), на ўчастку №40 — 30%. Выкарыстоўваліся гэтак званыя адміністрацыйныя рэсурсы. Па вёсках Пастаўскага раёну езьдзілі аўтобусы, якія зьбіралі людзей у працоўны час і прывозілі галасаваць. Старшыня Валаеўскага сельсавету **К.Вырвіч** прывезла выбаршчыкаў зь вёскі Дуброўка. Сакратар участковага выбаркаму №3 езьдзіла па вёсках і зьбірала людзей на галасаваньне. У Бешанковіцкім раёне старшыня выбаркаму на ўчастку №5 **Дубавец** адмовіўся зарэгістраваць назіральніка. 12 кастрычніка на ўчастку №2 нам. Старшыні райвыканкаму **Ул.Жук** выдаліў назіральніка з выбарчага ўчастку. У гэты дзень „прагаласавала" 120 чалавек выбаршчыкаў, у той жа час як пры назіраньні рэальна прагаласавала толькі 2 выбаршчыкі.

Пры „датэрміновым" галасаваньні ў Наваполацку зафіксаваны факт прымусу. Прымушалі датэрмінова галасаваць у паліклініцы №4, на заводзе „Вымяральнік", вытворчым аб'яднаньні „Палімір", крамах „Журавінка". Тое самае ў Полацку. Дырэктар прадпрыемства **Сямёнаў** загадаў усім работнікам прагаласаваць датэрмінова і адказнымі за гэта прызначыў начальнікаў цэху. Выхавацель інтэрнату №2 Полацкага ўнівэрсытэту **Селязьнёва** хадзіла па пакоях і прымушала студэнтаў ісьці на „выбары".

У Віцебску „выбары" не адбыліся ў 4 акругах, нягледзячы на ўсе намаганьні ўладаў. У Віцебскім мэдунівэрсытэце на нарадзе дэканаў і куратараў у прарэктара Дарафеева было загадана забясьпечыць датэрміновае галасаваньне. У інтэрнатах зьявіліся аб'явы: „Просьба да ўсіх студэнтаў прагаласаваць да пятніцы, датэрмінова. Дэканат." На ўчастку №65 па Віцебска-Кастрычніцкай выбарчай акрузе былі выяўленыя факты запрашэньня на „выбары" нябожчыкаў. Так грамадзянка Мартынава абуралася тым, што на выбары запрасілі яе маці, якая памерла ў траўні сёлета. У Воршы і Аршанскім раёне на сямі выбарчых участках акругі №27 выбаркамы склалі сьпісы выбаршчыкаў старэй за 60 гадоў. І 15-га кастрычніка сябры камісіі пайшлі са скрынямі па дамах.

Насуперак заявам ЦВК, не адбыліся выбары ні ў адной акрузе такіх буйных гарадоў, як Салігорск, Наваполацк, Рагачоў, Полацк, Ворша, Магілёў, Бабруйск, Берасьце, Віцебск, Менск. Усяго на выбары прыйшло, паводле падлікаў незалежных назіральнікаў, ня больш за 41% выбаршчыкаў. У буйных гарадах яўка выбаршчыкаў была яшчэ меншай — ад 35%да 38,5%. Як вядома, пасьля начных „падлікаў" улады абвясьцілі зусім іншую лічбу — ажно 60,6%. У Менску найбольш прагаласавала ў 94,99, 100, 104 і 110 выбарчых акругах, але і то прыйшло толькі ад 34% да 46,7%, аднак на наступны дзень улады абвясьцілі, што выбары адбыліся. У Віцебску, ў акрузе №19, што месьціцца на тэрыторыі вайсковай часткі, датэрмінова прагаласавала 69% (!) выбаршчыкаў у форме. У Горадні на тонкасуконным камбінаце працэнт папярэдняга галасаваньня склаў больш за 20%, а ўвогуле па Гарадзеншчыне — больш за 15 адсоткаў.* У Жлобіне звычайныя тэрміны паляўнічага сезону былі перанесеныя на тыдзень, каб каля 1500 паляўнічых ня зьніклі ў дзень выбараў. Але больш за ўсё падтасоўкі ішлі шляхам выкрэсьліваньня людзей са сьпісаў выбаршчыкаў, каб падвысіць такім чынам агульны адсотак. Людзей выкрэсьлівалі сотнямі, а назіральнікі атрымлівалі тлумачэньні, што за апошнія некалькі дзён тыя людзі некуды паехалі або памерлі. У выніку некаторыя „нябожчыкі", што зьяўляліся на ўчастку перад самым закрыцьцём фарсу, бачылі свае прозьвішчы выкрэсьленымі. Красамоўны прыклад — 99-я Ясенінская акруга ў Менску, дзе назіральнікі фіксавалі парушэньні на ўсіх участках. Найбуйнейшай падтасоўкай тут можна лічыць тое, што колькасьць прагаласаваўшых была штучна падвышаная з 44,5% да 53,4%. У выніку было паведамлена, што выбары тут адбыліся.

Калі вядучы праграмы „Рэзананс" паведаміў пасьля заканчэньня галасаваньня, што выбары ва ўсім Менску не адбыліся, старшыні ўчасткаў зь лёгкім сэрцам сталі падпісваць копіі пратаколаў, згодна зь якімі агульная колькасьць прагаласаваўшых склала 44,53%. І толькі пазьней, відаць, атрымаўшы жорсткія ўказаньні зьверху, лічбы раптоўна пачалі зьмяняцца ў бок павелічэньня і ўрэшце дайшлі да 53,4 адсоткаў. Вось некаторыя найбольш яркія параўнаньні лічбаў на ўжо падпісаных пратаколах і „ранішніх лічбаў". 195 участак — колькасьць выбаршчыкаў зьменшаная на 250 чалавек, колькасьць прагаласаваўшых павялічана на 320, колькасьць несапраўдных бюлетэняў павялічылася на 320, разыходжаньне на 18,1%. Участак №200, адпаведныя лічбы: 250; 225; 230; разыходжаньне — 15,3%. Участак №218 — колькасьць выбаршчыаў зьменшаная на 69 чалавек, а колькасьць прагаласаваўшых павялічаная на 840, дзякуючы чаму разыходжаньне склала ажно 53,8%. І так амаль паўсюдна. „Сумленнымі" засталіся вельмі рэдкія ўчасткі. А на некаторых падпісваць першыя, вечаровыя копіі пратаколаў старшыні адмовіліся, загадзя перасьцерагаючыся, каб іх не злавілі за руку. І так па ўсёй краіне... Сапраўдны ***дзень падману беларусаў***.

■ *Бюро па Дэмакратычных інстытутах і правах чалавека* (БДІПЧ) пры АБСЭ ня можа мець дачыненьня да заключэньня некаторых замежных назіральнікаў, чыімі меркаваньнямі, як высьветлілася, улады Беларусі маніпулявалі. БДІПЧ АБСЭ заявіла наступнае:

— Каля 150 замежных назіральнікаў, якія ня маюць дачыненьня да БДІПЧ АБСЭ, прыбылі большай часткай на запрашэньне беларускіх уладаў, каб назіраць за выбарамі 15-га кастрычніка. Яны знаходзіліся на тэрыторыі краіны 4-5 дзён;

— БДІПЧ АБСЭ атрымала інфармацыю, што ЦВК прапанавала аплаціць або аплаціла гатэльныя выдаткі для некаторых з гэтых назіральнікаў;

— У дзень выбараў ЦВК наладзіла аўтобусныя экскурсіі на выбарчыя ўчасткі для некаторых назіральнікаў;

— ЦВК прапанавала назіральнікам запоўніць праверачныя анкеты БДІПЧ АБСЭ, хоць Бюро не давала на гэта дазволу;

— Пасьля заканчэньня галасаваньня ЦВК прапанавала гэтым назіральнікам падпісаць ужо падрыхтаваную заяву, якая ўхваляла выбары без якіх-небудзь пацьвярджаючых высноваў.

■ *А.Дубаў (Гомель)* паведамляе аб сваіх назіраньнях у дзень „выбараў": „На ўчастку №11 Гомельскай выбарчай акругі №36 у першую гадзіну прагаласавала 43 чалавекі, а ў апошнюю — 14, у астатнія гадзіны — ад 44 да 85 чалавек. Разам бюлетэні атрымалі 688 выбаршчыкаў. У сьпісах іх было 2306, значыць прагаласавала толькі 29,8%. Калі старшыня зачытваў пратакол, аказалася, што бюлетэні атрымалі 1228 выбаршчыкаў (53,2%). Значыць, 540 бюлетэняў патрапілі ў урну невядома як.

■ *Загад па вертыкалі*: стварыць атмасфэру народнага гуляньня... Усіх пераплюнуў старшыня Берасьцейскага аблвыканкаму **В.**Даўгалёў у сваім распараджэньні „Аб некаторых мерах па забесьпячэньні правядзеньня другога тура выбараў". Вось гэты непараўнальны опус (пераклад з расейскай):

„З мэтай пасьпяховага правядзеньня другога тура выбараў ў палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь:

1. Усім кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацыяў, установаў, якія месьцяцца на тэрыторыях выбарчых акругаў, дзе будзе адбывацца другі тур галасаваньня, у гэты дзень знаходзіцца на працоўных месцах і асабіста забясьпечваць яўку на выбарчыя ўчасткі сваіх работнікаў.

2. Кіраўнікам аддзелаў, упраўленьняў, камітэтаў аблвыканкаму, абласных арганізацыяў правесьці неабходную працу па забесьпячэньні актыўнага ўдзелу работнікаў падведамасных установаў у другім туры галасаваньня.

3. Старшыням раённых, гарадзкіх выканаўчых камітэтаў, дзе будзе праходзіць другі тур галасаваньня:

— аказаць дапамогу ўчастковым камісіям ва ўдакладненьні сьпісаў выбаршчыкаў;

— прапрацаваць выразныя схемы дзеяньняў у выпадку недастатковай актыўнасьці выбаршчыкаў;

— у сродках масавай інфармацыі правесьці растлумачальную працу сярод выбаршчыкаў аб эканамічнай шкодзе ад няўдзелу ў выбарах;

— на тэрыторыі выбарчых акругаў у дзень галасаваньня стварыць атмасфэру сьвята, народнага гуляньня;

4. Усім старшыням гарадзіх выканаўчых камітэтаў адшукаць магчымасьць для прэміраваньня найбольш актыўных у працы сябраў участковых камісіяў за кошт мясцовых бюджэтаў, прадпрыемстваў, арганізацыяў, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у камісіі, і з іншых крыніцаў."

*(Не, мы памыліліся. Гэта ня проста опус, гэта шэдэўр гаршкарылага бюракратычнага стылю, манумэнтальны помнік эпохі позьняга лукашызму.)*

***(Падрыхтаваў В. Буйвал)***

* На практыцы колькасьць выбаршчыкаў, якія рэальна галасуюць датэрмінова, складае ня больш 0,5%.

## КАНЦЭРН „ЛУКАСТРА"

Міністэрства эканомікі лічыць нявыгадным пастаўку ў Беларусь кубінскага цукру на тых умовах, якія прапануе кубінскі бок. Але А.Лукашэнка, пабыўшы на Кубе, даў загад рыхтаваць адпаведныя пагадненьні з Кубінскім урадам.

Згодна з падлікам спэцыялістаў, у выніку зьдзелкі Беларусь страціць ня менш як 5 мільёнаў даляраў, і гэта пры ўмове, што кубінскія партнёры выканаюць свае абавязацельствы. Калі не, то страты будуць яшчэ большыя: кубінцы прапануюць прадаваць цукар па коштах значна вышэйшых за сусьветныя. На міжнародным рынку тона сукру-сырцу каштуе 250 даляраў, кубінцы хочуць прадаваць яго Беларусі па 307 даляраў за тону. А яшчэ затраты па дастаўцы і пераапрацоўцы кубінскага цукру (папярэджваюць беларускія спэцыялісты). І робяць высновы: зьдзелка на ўмовах, прапанаваных кубінскім бокам, для Беларусі эканамічна нявыгадная. Страты можна было б кампэнсаваць ад продажу на Кубу нашых угнаеньняў, але і тут нас чакаюць сюрпрызы. Кубінцы патрабуюць, каб угнаеньні былі расфасаваныя па мяхах яшчэ ў Беларусі. Гэта павялічыць сабекошт. Другая праблема — Беларусь свае ўласныя патрэбы ў азотных угнаеньнях задавальняе толькі на 60 адсоткаў, а тут давядзецца аддаваць 70 тысячаў тонаў кубінцам. У нямэтазгоднасьці такога пагадненьня спэцыялісты спрабавалі пераканаць Лукашэнку. Але ў адказ: „Рыхтуйце пагадненьне. Куба бедная, ёй трэба дапамагаць."

***А.Грузьдзіловіч** (паводле радыё)*

## РУСІФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ

Акупацыйная палітыка русіфікацыі рухаецца напралом. Інфармацыя ў чужых руках. Нядаўна перавялі на расейскую мову ўсе інфармацыйныя паведамленьні Дзяржаўнага тэлебачаньня аб дзейнасьці Лукашэнкі.

Гледачы інфармацыйнай праграмы *Панарама* адзначылі, што з сярэдзіны жніўня рэпартажы пра чыннасьць А.Лукашэнкі журналісты БТ сталі падаваць у эфір па-расейску. Матэрыял вядучы прадстаўляе па-беларуску, і астатнія сюжэты ідуць беларускамоўныя. Так БТ правяло канчатковую мяжу паміж моваю палітыкі кіраўніка рэжыму і астатнім жыцьцём краіны, нібыта вылучыўшы яго з гэтага жыцьця.

Палітычная аналітыка на БТ заўсёды расейскамоўная. Пачыналася яна з аўтарскай праграмы П.Шарамета „Праспэкт" — нікому дагэтуль невядомага 22-гадовага выпускніка Інстытуту Народнае гаспадаркі (гэтай кузьні агентуры) паднялі на вяршыню журналісцкага алімпу краіны. Не выпадкова пасьля закрыцьця праграмы П.Шарамет апынуўся ў Маскве на ОРТ.

На ўзор ОРТ будаваў свой „Рэзананс" і А.Зімоўскі, але толькі па форме. Зьместам гэтага „аналітыка" стаў кароткі курс гісторыі 1-га прэзыдэнта. Потым да „Рэзанансу" дадаўся яшчэ адзін расейскамоўны аналітычны выпуск Панарамы зь Юрыям Казіяткам.

Палітычныя дыялёгі БТ вядзе таксама авыключна па-расейску. На штодзённай расейскамоўнай „Падзеі" здараюцца выключэньні, але толькі, калі госьцем праграмы становіцца верны Лукашэнку беларускі „творца". Пасьля *Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць* ягоных удзельнікаў паліваў беларускамоўным брудам паэт Генадзь Пашкоў.

Штодзённыя выпускі апэратыўнае інфармацыі заставаліся беларускамоўнымі. Але вось і ў іх рэпартажы пра Лукашэнку сталі весьціся па-расейску (пасьля зьмены кіраўніцтва БТ). Дасьведчаныя ў моўнай палітыцы БТ людзі запэўнілі: падобнае рашэньне не маглі прыняць на ўзроўні Чыкіна, які пастаўлены не для прыняцьця, а для выкананьня рашэньняў. У прапагандысцкай палітыцы рашэньні рэдка прымаюцца без удзелу У.Замэталіна і „распрацовак" Масквы*.

***(Паводле Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода". В.Аксак)***

* Такая ж самая агентурная мэтодыка паступовай русіфікацыі і выцясьненьня беларускай мовы назіраецца на Беларускім Дзяржаўным радыё, якім кіруе расеец Ядранцаў. *(рэд.)*

*Запомніце гэты факт*

# НАПАД РАСЕЙЦАЎ НА БЕЛАРУСКУЮ КАШУЛЮ

***Беларускі студэнт Вадзім Макееў атрымаў строгую вымову з апошнім папярэджаньнем за тое, што прыйшоў на заняткі ў беларускай нацыянальнай кашулі-вышыванцы і ў павязцы з выявай Пагоні.***

Каб атрымаць строгую вымову з апошнім папярэджаньнем, неабходна мець дагэтуль самае малое дзьве вымовы. Таго, хто атрымаў строгую вымову з апошнім папярэджаньнем могуць адлічыць з інстытуту ў любы момант без тлумачэньняў. Студэнт 4-га курсу Пінскай філіі недзяржаўнага Інстытуту Кіраваньня і Прадпрымальніцтва Вадзім Макееў атрымаў такое сур'ёзнае пакараньне толькі за тое, што прышоў на заняткі ў беларускай нацыянальнай кашулі-вышыванцы і з павязкай з выявай нацыянальнага гэрбу *Пагоня.* „Намесьнік па выхаваўчай рабоце правёў мяне ў кабінэт рэктара, — апавядае Вадзім Макееў. — Яны запатрабавалі ад мяне проста ў кабінэце каб я зьняў, як яны сказалі, „усё гэтае барахло". Я адмовіўся і сказаў, што распранацца буду толькі ў прысутнасьці ўсіх студэнтаў, каб студэнты таксама бачылі. Яны сказалі, што калі яшчэ раз убачаць мяне ў такім строі, то адразу адлічаць з інстытуту. Яны напісалі мне вымову без усялякіх тлумачэньняў."

В. Макееў таксама сказаў, што кіраўнік Пінскай філіі Інстытуту **Валеры Савінаў** параіў яму, каб пазьбегнуць непрыемнасьцяў, займацца палітыкай па-за сьценамі інстытуту. Такім чынам, паводле сп. Савінава, беларуская нацыянальная кашуля — гэта ўжо палітыка.

У размове з карэспандэнтам В.Савінаў адкрыта пацьвердзіў, што ціснуў на студэнта Макеева.

***(А.Д. Паводле Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода"; 2 кастрычніка)***

# ХРОНІКА ПАРУШЭНЬНЯЎ ПРАВОЎ БЕЛАРУСАЎ

*(Інфармацыйная камісія Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыіі — БНФ. Па матэрыялах Камісіі, СМІ, „Вясны-96", SANA).*

## *ЧЭРВЕНЬ*

*22 чэрвеня* ў суд Фрунзенскага раёну Менска выклікалі грамадзяніна ***Яна Грыба*** па складзенай на яго адміністрацыйнай справе (Ян Грыб абураўся на вуліцы на дзеяньні ўладаў). Спадар Грыб запатрабаваў, каб суд адбываўся на беларускай мове і каб позву ў суд яму таксама выпісалі па-беларуску. У адказ Яну Грыбу сталі пагражаць у сакратарыяце суда, што складуць на яго пратакол за непавагу да суду. Тады Ян Грыб адмовіўся браць позву на рускай мове.

*23 чэрвеня.* На вуліцы Ўсходняй у Менску „людзі ў цывільным" затрымалі ***Аляксея Паўціну*** (26 гадоў) каля дому, у якім ён жыве. Людзі ў цывільным прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі, сказалі, што маюць інфармацыю, паводле якой Аляксей зьяўляецца сьведкам крадзяжу, і загадалі яму прайсьці зь імі. А.Паўціна адмовіўся, бо нічога пра крадзёж ня ведаў. Тады яму надзелі кайданкі і адвезьлі ў аддзяленьне міліцыі, дзе пачалі выбіваць паказаньні.

Аляксея Паўціну зьбівалі і катавалі цэлую ноч. Катаваньні спынілі толькі ў 4 гадзіны раніцы і выкінулі ахвяру на вуліцу. А.Паўціна апынуўся ў хірургічным аддзяленьні 6-га клінічнага шпіталю з цяжкімі пашкоджаньнямі галавы (страсеньне мазгоў), зламаная ключыцай, запухлым вокам, з моцна пабітым тварам і ўсім целам.

26 чэрвеня айчым Аляксея *Віталь Нешка* падаў у пракуратуру Савецкага раёну заяву пра ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць супрацоўнікаў міліцыі. У той жа вечар каля $23^{00}$ міліцыянты наведалі Аляксея Паўціну ў шпіталі і зноў зьбілі яго там да паўсьмерці. Нараніцы ў шпіталь прыйшлі маці і айчым Аляксея, каб адвезьці яго на судмедэкспэртызу, але гэта было немагчыма: пасьля начнога катаваньня хлапец быў пераведзены з хірургічнага аддзяленьня ў рэанімацыйнае.

*(Запомніце гэты факт):*

*23 чэрвеня.* ***Сьвятлана Курс*** паведамляе, што адмаўляюцца абслугоўваць, калі зьвяртаешся па-беларуску. 23 чэрвеня апэратары пэйджынгавай кампаніі Solid не прынялі паведамленьне па-беларуску — кінулі слухаўку. Суправаджалася гэта абразамі.

*26 чэрвеня* ў калгасе *Дуброва* Сьветлагорскага раёну Гомельскай вобласьці механізатары распачалі стыхійны страйк. У акцыі ўдзельнічала каля 30 чалавек. Людзі патрабавалі выплаты заробку, які не атрымлівалі з лютага бягучага году. Не спадзеючыся на тое, што калгас зможа выплаціць усю запазычанасьць адразу, людзі патрабавалі, каб выплпцілі заробак хаця б за люты... Да 12-ці гадзінаў дня грошы знайшліся, і механізатарам выплпцілі заробак.

*Чэрвень.* Не дапусьцілі да абароны дыплёмнай працы студэнта V курсу геаграфічнага факультэта ***Паўла Севярынца.*** Дэкан факультэту **Іван Пірожнік** не дазволіў абараняць дыплём „Бурштын Беларусі" праз тое, што праца напісаная беларускаю моваю ў клясычным (тарашкевіцкім) правапісе.

*Чэрвень.* У верасьні 2000 г. у 15 школаў Наваполацку прыйдзе пад 1000 шасьцігодкаў. *Зь меркаваных 50 першых клясаў ніводнага ня будзе беларускага.*

***Сучасныя тэмпы й памеры вынішчэньня беларускага школьніцтва*** *(г.Барысаў):*

У **1995-96** н.г. па-беларуску вучылася ***3069*** вучняў (пры **24172** вучнях па горадзе).

У **1996-97** н.г. па-беларуску вучылася ***2166*** вучняў (пры ***24345*** вучнях па горадзе).

У **1997-98** н.г. па-беларуску вучыліся ***1403*** вучні (пры ***24348*** вучнях па горадзе).



***24 верасьня ў Брукліне адбываўся фэстываль Атлянтычнага праспэкту (Атлянтык-эвеню), на якім акурат стаіць адна з двох у Нью-Ёрку Беларускіх цэркваў. Беларускія стравы, падрыхтаваныя беларускімі жанчынамі, убранымі ў народныя строі, вельмі смакавалі бруклінцам. Беларусы вылучаліся на фэстывалі сваім надзвычай прыгожым адзеньнем. У Амэрыцы ніхто нікому нідзе не забараняе насіць нацыянальнае адзеньне, купляць, прадаваць і рабіць любую працу.***

У **1998-99** н.г. па-беларуску вучылася *1429* вучняў (пры *24735* вучнях па горадзе).

У **1999-2000** н.г. па-беларуску вучылася **1218** вучняў (пры **24231** вучні па горадзе).

**Статыстыка згортваньня беларускамоўных клясаў** *(горад Барысаў):*

| | 1995-96гг | 1996-97гг. | 1997-98 гг. | 1998-99 гг. | 1999-2000гг. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 кл. | 330 | 165 | 0 | 0 | 0 |
| 2 кл. | 504 | 272 | 57 | 24 | 0 |
| 3 кл. | 1184 | 468 | 191 | 75 | 0 |
| 4 кл. | 970 | 707 | 373 | 323 | 33 |
| 5 кл. | 57 | 501 | 398 | 303 | 126 |
| 6 кл. | 24 | 53 | 328 | 411 | 298 |
| 7 кл. | 0 | 0 | 56 | 334 | 401 |
| 8 кл. | 0 | 0 | 0 | 59 | 300 |
| 9 кл. | 0 | 0 | 0 | 0 | 50 |
| 10 кл. | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| 11 кл. | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 |

*(„Гоман Барысаўшчыны", №2, 2000г.)*

*24 чэрвеня* праводзіўся „рыцарскі фэст" у Наваградку. Міліцыя схапіла трох берасьцейцаў — ***Сяржука Бахуна, Базыля Андрасюка*** і ***Юры Шульгана*** — за тое, што яны трымалі ў руках беларускія *Бел-Чырвона-Белыя сьцягі.* Затрыманьне незаконнае. Не існуе ніякага нарматыўнага акту (нават акупацыйнага), які б забараняў выкарыстаньне нацыянальнага сьцягу.

*27 чэрвеня* ў судзе Маскоўскага раёну Менска судзілі чатырох пікетоўшчыкаў з АГП: ***У.Раманоўскага, Аляксея Радзівона, Галіну Ганчарык, Людзьмілу Бажок.*** Юрыдычнай падставы для суда над імі не было, і суддзя **Алена Тройніч** адклала паседжаньне суду для кансультацыяў. Назаўтра, пасьля „кансультацыяў", У.Раманоўскаму яна прысудзіла штраф у 390 тыс. рублёў (каля 400 даляраў), Галіне Ганчарык — 52 тысячы рублёў, Людзьміле Бажок — папярэджаньне, а А.Радзівона з-пад суда вызвалілі. (Чаму распісалі такі сцэнар — вядома толькі „кансультантам".)

## ЛІПЕНЬ

*5 ліпеня* сябра *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* ***Вольга Кацянкова*** зьбірала подпісы за Незалежнасьць Беларусі ў Менску па вул. Альшэўскага. Жыхар дому №75, кв.64, убачыўшы падпісны ліст, груба выхапіў з рук жанчыны папку з падпіснымі лістамі і выклікаў міліцыю. Спадарыню Кацянкову адвезьлі ў пастарунак, дзе прымусілі напісаць тлумачальную запіску. Невядомы стукач заслужыў, відаць, падзяку рэжыму.

*6 ліпеня* ў 2 гадзіны ночы міліцыя схапіла на вуліцы ў Менску жыхара Горадні ***Валеры Кіселя.*** Побач знаходзілася тралейбуснае дэпо, дзе нехта напісаў на тралейбусах ***„Жыве Незалежная Беларусь!".*** Міліцыянты зьбілі В.Кіселя, адвезьлі ў пастарунак міліцыі Партызанскага раёну і разам з супрацоўнікамі КГБ (сем асобаў) дапытвалі затрыманага цэлую ноч і цэлы дзень. Яго пратрымалі 15 гадзінаў, але так і не даказалі „вінаватасьці". Тады начальнік аддзелу Партызанскага РАУС назваў В.Кіселя „правапарушальнікам (?) і выпісаў яму мінімальны штраф — 2 тысячы рублёў (2 даляры ЗША) за „дробнае хуліганства" (?).

*7 ліпеня.* Беларускія СМІ паведамілі, што па дарозе ў аэрапорт Менск-2 зьнік тэлеапэратар расейскага тэлеканалу ГРТ **Дзімітры Завадзкі.**

Д.Завадзкі ў 1998 г. удзельнічаў у вядомай агентурнай авантуры з П.Шараметам на мяжы Беларусі і Летувы (калі Лукашэнка загадаў арыштаваць Шарамета). Тады было паведамлена аб прыналежнасьці Д.Завадзкага да спэцслужбаў. П.Шарамет раскрыўся пазьней, у 1999 годзе, ужо ў Расеі на тэлеканале ГРТ, дзе ён неаднаразова (разам з А.Няўзоравым) заклікаў зьнішчаць (бамбаваць) чачэнцаў і „спасаць" Расею.

Відавочна: альбо пачынаецца нейкая чарговая эфэсбоўская авантура, альбо кагэбісцкая мафія ўладкоўвае свае падрахункі.

*7 ліпеня на Дзень Яна Хрысьціцеля* міліцыя затрымала на паўгадзіны набажэнства ў царкве ў пасёлку Пагранічны, якая месьціцца ў вайсковым намёце. Зь Бераставіцы прыехалі 2 міліцэйскія машыны і прадстаўнік райвыканкаму. Быў складзены пратакол. Сьвятар ***Іван Спасюк*** адмовіўся яго чытаць і падпісваць. Мэтай міліцыі было перашкодзіць набажэнству, паколькі ўлады не дазваляюць, каб у Пагранічным прыходзе была ***Беларуская народная аўтакефальная царква***. Інцыдэнт закончыўся пасьля таго, як сьвятар са словамі „адыдзіце, антыхрысты!" апырскаў міліцыянтаў сьвятой вадою.

*7 ліпеня.* У сьледчым ізалятары Магілёва асуджаны 30 чэрвеня ***Д. Абадоўскі*** абвесьціў бестэрміновую галадоўку. Начальнік ізалятару палкоўнік **Т.Восіпаў** заявіў, што ў выпадку крытычнага стану вязьня да яго будзе прыменeнае прымусовае харчаваньне. 26-гадовы вязень напісаў у заяве, што пайсьці на крайнія меры яго прымусіла:

— фабрыкацыя самой крымінальнай справы;

— парушэньне сьледствам абавязковых патрабаваньняў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу пры зборы доказаў;

— прыняцьцё судом у якасьці доказаў паказаньняў, здабытых на папярэднім сьледстве з прымяненьнем катаваньняў;

— грунтоўнае скажэньне пратаколу судовага паседжаньня.

Д. Абадоўскага спачатку арыштавалі нібыта за згвалтаваньне, трымалі пад вартай нібыта за групавы крадзёж, а асудзілі — за крадзёж з пранікненьнем у жыльлё.

*Статыстыка пад акупацыяй.*

Па колькасьці вязьняў на душу насельніцтва Беларусь уваходзіць у тройку сусьветных лідэраў — **477** чалавек на 100 тыс. насельніцтва.

Штоцацьверты беларус, народжаны ў 1998 г., не дажыве да 60 год. Беларусь уваходзіць у лік 17 краінаў сьвету, у якіх да 2015 года насельніцтва зьменшыцца. У 1996 г. у Беларусі на кожныя 100 шлюбаў былі зарэгістраваныя 68 разводаў. Гэта — другое месца ў СНД і Ўсходняй Эўропе.

*Прыкметы выраджэньня.*

Выпускнікі Шаркаўшчынскай СШ №1 сьвяткавалі выпускны баль. Атрымлівалі атэстаты. Са школай разьвітваліся матэматычны, гуманітарны (рускамоўны) і беларускамоўны клясы. І за ўвесь вечар — ніводнага слова на роднай мове. Нават да настаўніцы беларускай мовы вучні зьвярталіся са словамі ўдзячнасьці па-расейску. Ды й сама настаўніца роднай мовы адказвала выпускнікам на расейскай мове.

*Удар Чарнобыля.*

*Ліпень.* На думку спэцыялістаў Міжнароднай Фэдэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, наступствы Чарнобыльскай катастрофы прыкметна ўскладнены глыбокім крызісам. У „Дакладзе аб глябальных катастрофах 2000" зазначаецца, што праз 14 гадоў радыёактыўнасьць адпомсціла, пакалечыўшы ня толькі целы, але і розумы мільёнаў людзей." У дакладзе гаворыцца, што мільёны беларусаў, якія перажылі катастрофу, пазбаўлены неабходнай мэдычнай дапамогі.

*8 ліпеня. Пінск.* Раніцай на сьценах будынкаў у Пінску зьявіліся шматлікія надпісы тыпу: „Пакуль Лука пры ўладзе, Беларусь у заняпадзе" і г.д. Пасажыры аўтобусаў, убачыўшы праз вакно гэтыя надпісы, усьміхаліся ці зьдзіўляліся сьмеласьці аўтараў. У голас незадавальненьня ніхто не выказаў.

*Прыкметы выраджэньня.*

„Эўрапейцы ганарацца ***Васілём Быкавым***, а ў Беларусі баяцца вымавыць ягонае прозьвішча." 10 ліпеня 100 літаратараў з 43 эўрапейскіх краінаў завіталі на міжнародным экспрэсе ў Менск. Улады стараліся дэкаратыўнымі прыёмамі стварыць у гасьцей уражаньне, што быццам у нас усё добра, краіна на дэмакратычным шляху. Аднак госьці ацанілі сітуацыю слушна. Латышскі паэт ***Морыс Чаклайс*** публічна абураўся тым, што падчас вітальнай цэрымоніі ў Палацы рэспублікі пры перакладзе афіцыйнага выступу нямецкага літаратара ***Т.Вулфарта*** было апушчана імя Васіля Быкава. „Я быў вельмі ўстрывожаны, што тое, што раней адбывалася з сусьветна вядомым чылійскім паэтам ***Паблам Нэрудам***, зараз адбываецца на Беларусі з *Васілём Быкавым*, „— сказаў М.Чаклайс.

*Ліпень.* Некалькі месяцаў знаходзіцца бяз сродкаў існаваньня былы начальнік кампрэсарнага ўчастку асіповіцкага шклозаводу „Кастрычнік" ***Альбэрт Яўменаў***. Ён жа — былы кіраўнік пярвічнай арганізацыі Свабоднага Прафсаюзу Беларусі на гэтым прадпрыемстве. Ён, бацька пяцярых дзяцей, кажа, што яго звольнілі па палітычных матывах. Звольнілі яго з фармулёўкай „за сістэматычнае невыкананьне сваіх абавязкаў". Падчас атэстацыі кадраў сп. Яўменаў атрымаў нэгатыўную характарыстыку, дзе адзначалася, што ў яго „няма канструктывізму, ён праводзіць актыўную палітычную агітацыю на прадпрыемстве". У хуткім часе выйшаў загад дырэктара аб яго звальненьні. Звольнілі яшчэ дзьвюх актывістак Свабоднага Прафсаюзу.

*13 ліпеня* ў Баранавічах мясцовыя настаўнікі правялі пікет, патрабуючы павелічэньня зарплаты і паляпшэньня адносінаў да настаўнікаў.

*19 ліпеня.* Гарадзкое Аб'яднаньне *„Таварыства Беларусай Мовы" імя Францішка Скарыны* атрымала пісьмовае папярэджаньне зь Міністэрства Юстыцыі, дзе на аснове дробных заўваг фармальнага кшталту гаворыцца пра магчымасьць закрыцьця ***ТБМ***. Напрыклад, на пісьмовым блянку *ТБМ* не пазначана, што гэта таварыства „рэспубліканскае" і г.д.

*23 ліпеня* ў Бярозе, раённым цэнтры Берасьцейскай вобласьці, адбыўся пікет у падтрымку *Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць.* Акцыя была прымеркаваная таксама да дзясятых угодкаў прыняцьця Вярхоўным Саветам Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.

Пікет адбыўся па ініцыятыве сябраў *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ і Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне".* Удзельнікі пікету — сябры *Народнага Фронту, Таварыства беларускай мовы* ды іншых *нацыянальна-вызвольных арганізацыяў* — трымалі *Бел-Чырвона-Белыя сьцягі* з партыйнай сімволікай і плякаты: *„НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ — гарантыя жыцьця і здароўя вашых дзяцей і ўнукаў"; „Мы ня хочам, каб беларусы пралівалі кроў у Чачні, ці ў іншых расейскіх гарачых кропках"* і г.д. Адначасова зьбіраліся подпісы супраць аб'яднаньня Беларусі і Расеі.

З гэтымі плякатамі пікетоўшчыкі прастаялі доўгі час перад уваходам на стадыён — амаль што на галоўнай вуліцы горада (якая носіць імя Леніна). Але потым міліцэйскі патруль запатрабаваў ад удзельнікаў акцыі, каб тыя адыйшлі непасрэдна на тэрыторыю стадыёна.

Неўзабаве на гэтым спартовым аб'екце зьявіўся старшыня Бярозаўскага райвыканкаму **Ільля Малесін**, які вырашыў у выхадны дзень пагуляць у тэніс. Перад тым, як распачаць сваю трэніроўку, кіраўнік мясцовай „вертыкалі" павітаўся з пікетоўшчыкамі і павіншаваў з надыходзячым сьвятам — Днём Незалежнасьці. Цікава, што падчас гэтай „нефармальнай" сустрэчы са старшынём райвыканкаму ўдзельнікі пікету яшчэ ня ведалі, што бярозаўскія ўлады забаранілі правядзеньне 27 ліпеня дэманстрацыі, таксама прымеркаванай да прынятай у 1990 г. Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Падпісаў райвыканкамаўскае рашэньне, якое забараніла дэманстрацыю, той самы Ільля Малесін.

*У ноч з 23 на 24 ліпеня* была абрабаваная сядзіба *Згуртаваньня Беларусаў сьвету „Бацькаўшчына".* Невядомыя злачынцы ўзламалі

ўваходныя дзьверы і скралі кампутарны блёк з інфармацыйнай базай арганізацыі, створаны за 10 гадоў яе існаваньня, а таксама новы лазерны прынтар і тэлефакс.

За апошнія тры месяцы гэта трэцяе па ліку абрабаваньне грамадзкіх арганізацыяў.

## ЖНІВЕНЬ

*3 жніўня* на Цэнтральнай плошчы Барысава (Менская вобласьць) адбыўся несанкцыянаваны пікет, які прайшоў пад лёзунгамі: **„Далоў Бургуна, Трусава, Кішчанку!"** і **„Нам патрэбная гарачая вада!"**. Удзельнікі акцыі патрабавалі зьмены мясцовага кіраўніцтва (Бургуна (старшыня Гарвыканкаму), Трусава (намесьнік старшыні Гарвыканкаму), Кішчанкі (намесьнік дырэктара жылкамунгасу). Пікет цягнуўся ўсяго дзесяць хвілінаў, потым пікетоўшчыкаў затрымалі і павезьлі ў суд. Суддзя **Алена Бачышча** прысудзіла ўдзельнікам пікету наступныя пакараньні: ***Аляксандру Абрамовічу*** — 15 сутак адміністрацыйнага арышту; ***Ігару Ледніку*** — 5 сутак адміністрацыйнага арышту; ***Алесі Ясюк*** — штраф (150 мінімальных заробкаў); ***Ларыске Грэбневай*** — папярэджаньне; ***Сяргею Сакалову*** — папярэджаньне. Асуджаныя А.Абрамовіч і І.Леднік абвесьцілі галадоўку.

*8 жніўня.* Каля вёскі *Даманава*, што на Бабруйшчыне, невядомыя п'яныя мужчыны, якія нібыта былі ці то міліцыянтамі, ці то кагэбістамі на адпачынку, абстралялі з паляўнічых ружжаў маладзёвы летнік беларускай моладзі на беразе ракі Бярэзіны. Шротам параніла ў нагу непаўнагадовую дзяўчынку.„Міліцыянты ў адпачынку" стралялі па *Беларускаму Бел-Чырвона-Беламу сьцягу*, па палатках і па людзях — хлопцах і дзяўчатах (каля 30-ці асобаў), палова зь якіх — непаўнагадовыя.

Надзвычайным здарэньнем — страляніне па людзях — зацікавіліся журналісты і праваахоўныя арганізацыі. Пададзены заявы ў Бабруйскую пракуратуру. Калі спыталі „міліцыянераў у адпачынку", чаму яны стралялі па дзецях, „нібыта паляўнічыя" адказалі, што яны ня лічаць тых, хто пад *Бел-Чырвона-Белым сьцягам*, людзьмі.

З пункту гледжаньня паняцьцяў і нораваў акупацыйнага рэжыму, адказ палітычна адпаведны, хоць ёсьць, праўда, моцныя разыходжаньні з Крымінальным Кодэксам. Пракуратура ламае галаву, як скамечыць, зацiснуць і не пачаць справу.

А ў Беларусі цішыня. Прывыклі.

■ *„Гнілая дружба".* Падчас падрыхтоўкі да алімпійскіх стартаў у лютым сёлета беларускія майстры акадэмічнага веславаньня выехалі на зборы ў Гішпанскую Сэвілью. Там нашыя спарцмэны ***Н.Лаўрыненка*** і ***Н.Стасюк*** адчулі боль у сьпіне і плячах. Дапамагчы ім напрасіўся дабраахвот з расейскай зборнай (маўляў, мы ж саюзьнікі, вашыя мэдалі — нашыя мэдалі). Пакуль беларускі трэнер **С.Марчанка** сядзеў, разьвесіўшы вушы, расеец калоў нашых дзяўчат шпрыцам з нейкай поскуддзю. Вынік гэтай „дапамогі" — пажыцьцёвая дыскваліфікацыя беларускіх спарцмэнак. Расейцы могуць радавацца: сур'ёзных канкурэнтак у іх стала менш. Нашыя мэдалі сапраўды могуць стаць расейскімі. Цікава было б падлічыць, колькі „падлянак" атрымалі нашыя спартоўцы ад расейскіх „калегаў" падчас збораў і спаборніцтваў яшчэ за СССР.

■ Лукашэнкаўскі электарат атрымаў яшчэ адзін падарунак ад свайго любімца. Кватрплата стала не па кішэні пэнсіянерам пасьля дзесяцікротнага падвышэньня платы за „лішкі" жылой плошчы. Старыя задаюць пытаньне: чаму трэба плаціць за „лішкі" мэтраў у прыватызаванай кватэры, чаму трэба плаціць за тэхнічнае абслугоўваньне, калі жыхары самі робяць рэмонт у сваіх кватэрах?

■ Адзін з караблёў ваенна-марскога флёту Расеі атрымаў назву „Брэст". Аказваецца, берасьцейскія гарадзкія ўлады зьвярнуліся па інстанцыі з такой просьбай. Во якія патрыёты „вялікай і недзялімай" завяліся ў нас на заходняй мяжы!

■ Падчас сустрэчы начальніка ўпраўленьня адукацыі Менгарвыканкаму М.Ціцянкова (прозьвішча набывае вагу сымвалу) з актывістамі ***ТБМ***, начальнік раптам расшчодрыўся і паабяцаў адкрыць адну беларускамоўную гімназію ў сталіцы ... праз чатыры гады.

■ Па віне Міністэрства аховы здароўя, беларускія дзеці могуць застацца без радыяцыйнай абароны, што выкліча катастрафічнае пагаршэньне іхняга здароўя. Пра гэта заявіў дырэктар Інстытута радыяцыйнай бясьпекі „Белрад", член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, доктар тэхнічных навук прафэсар ***Васіль Несьцярэнка***. Ён назваў „непаўнавартаснымі" нормы радыяцыйнай бясьпекі Беларусі на 2000 год, падрыхтаваныя і прынятыя Міністэрствам аховы здароўя. У гэтыя нормы ня ўключана дозавая мяжа для дзяцей — 0,3 мілізівэрта ў год, з перавышэньнем якой павінна адбывацца ўмяшаньне спэцыялістаў па радыяцыйнай абароне дзяцей. Акрамя таго ў Беларусі дзейнічае архаічны і недакладны каталёг дозавых нагрузак на насельніцтва 1992 г. У 1998-99 гг. Міністэрства аховы здароўя прапанавала два новыя праекты каталёгу, але пры іх практычнай праверцы спэцыялісты Інстытута ўстанавілі зьніжэньне фактычных дозавых нагрузак у 3-8 разоў. Прафэсар тлумачыць гэта ўжываньнем памылковай мэтодыкі разьлікаў штогодных дозаў абпраменьваньня паводле абмежаванага адбору пробаў прадуктаў харчаваньня. Несьцярэнка адзначыў дзейнасьць прафэсара ***Юры Бандажэўскага*** (радыёляга, рэктара Гомельскага ўнівэрсітэту, якога ўлады абвесьцілі „ворагам народу"). Бандажэўскі зрабіў важную выснову аб тым, што пры ўзроўні назапашваньня цэзія-137 у 50 бекэрэляў на 1 *кг*, у дзіцячым арганізме наступае паталёгія жыцьцёва важных органаў і сістэм. Апошнія працы прафэсара Бандажэўскага гавораць пра непасрэдную залежнасьць дзіцячых захворваньняў ад узроўню радыяцыйнага ўдару. Прафэсар Несьцярэнка і ягоныя супрацоўнікі праводзяць абсьледваньні дзяцей з дапамогай лічыльнікаў выпраменьваньня чалавека (ЛВЧ). Аднак Міністэрства аховы здароўя патрабуе дадатковую ліцэнзію на выкарыстаньне ЛВЧ альбо пагражае спыніць радыяцыйны маніторынг. В.Несьцярэнка вымушаны зьвярнуцца да міжнароднай грамадзкасьці з просьбай не дапусьціць закрыцьця ў інстытуце дасьледваньняў з выкарыстаньнем ЛВЧ, бо гэта прывяло б да згортваньня дзейнасьці незалежных спэцыялістаў па абароне здароўя дзяцей. Крызіс разгортваецца на фоне бравурна-аптымістычных рэпартажаў афіцыйнага тэлебачаньня з радыяцыйных раёнаў Гомельшчыны і Магілёўшчыны, куды „масава вяртаюцца людзі і зноў гучыць дзіцячы сьмех".

***Паўлік Зубавец*** нарадзіўся ў лютым сёлета ў Гомлі ў сям'і маладых рабочых. Лекары паставілі дыягназ — складаны парок сэрца. Апэрацыю трэба праводзіць у першы год жыцьця дзіцяці. Аказалася, што апэрацыя каштуе 5200 даляраў (заробак бацькоў за 104 месяцы, калі ня есьці і ня піць, і месячны заробак выкладчыка ўнівэрсітэту ў Нью-Ёрку). Акупацыйныя ўлады адказалі: „Ён і так не жылец. Мы будуем лядовыя палацы." У знакамітым дзіцячым фондзе „імя Ліпскага", што манумэнтальна месьціцца ў цэнтры сталіцы, сям'і запрапанавалі гуманітарную дапамогу ажно ў 20 тысячаў рублёў (20 даляраў) і параілі хадзіць па міжнародных радыёлягічных кангрэсах ды падаць у ногі замежным удзельнікам — раптам хто зьміласьцівіцца... А ў зоне „гучыць дзіцячы сьмех".

*14 жніўня* намесьнік старшыні *Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ* ***Юры Беленькі*** зьвярнуўся са скаргай у Менскую гарадзкую пракуратуру з прычыны адмовы пракуратуры Савецкага раёну Менску ўзбудзіць справу ў дачыненьні да супрацоўнікаў міліцыі, якія зьбілі *Ю.Беленькага 25 Сакавіка* гэтага году на *Дзень Волі.* Яшчэ да пачатку акцыі супрацоўнікі міліцыі і спэцназаўцы пачалі захоп людзей. *Ю.Беленькага* зьбілі з ног і білі дубінкамі і нагамі. У выніку ён атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і страціў прытомнасьць. *Спадара Беленькага* забралі ў спэцпрыёмнік-разьмеркавальнік і пратрымалі там больш за суткі, не аказваючы



*Нью-Ёрк. Беларусы на дэманстрацыі 6-га верасьня*

Найбольш драматычня сітуацыя склалася ў Чачэніі і на Беларусі. На Беларусі ў 1994 г. выкарысталі прэзыдэнцкія выбары, савецкую сістэму беларускай улады і савецкую каляніяльную адміністрацыю і правялі на прэзыдэнцкую пасаду сваю кагэбоўскую крэатуру — Аляксандра Лукашэнку,— чалавека без палітычнай біяграфіі.

Пасьля перавароту 1996 года, расейскімі спэцслужбамі (перш за ўсё КГБ-ФСБ) пры дапамозе Лукашэнкі была ажыцьцёўлена **ўнутраная акупацыя Беларусі**, якая заключалася ў наступным:

— у заняцьці ўсіх кіруючых пасадаў ва ўладзе і ў эканоміцы Беларусі расейцамі, выхадцамі з Расеі і функцыянерамі КГБ-ФСБ (у беларускім урадзе ўжо практычна не засталося ніводнага беларуса);

— у правядзеньні антыбеларускай русіфікатарскай унутранай палітыкі (г.зн. закрыцьці беларускіх школаў, манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, разбурэньні асноваў дэмакратыі і грубым парушэньні правоў чалавека);

— **у правядзеньні зьнешняй палітыкі, накіраванай на злучэньне з Расеяй і на ліквідацыю суверэнітэту Беларусі** (стварэньне акупацыйнай дактрыны „інтэграцыі").

Такім чынам расейская ўнутраная акупацыя нашай краіны — гэта ёсьць часовы этап, падрыхтоўчы працэс, які вядзе да ліквідацыі суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі, да аншлюсу яе Расеяй.

Дыктатура Лукашэнкі — гэта ёсьць толькі функцыя ўнутранай акупацыі. Акупацыйны рэжым *ня можа быць дэмакратычным.* Гэта заўсёды дыктатура. А ў нашай сітуацыі яшчэ і праграма ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Калі не разумець гэтых відавочных зьяваў, ігнараваць імпэрскую палітыку Расеі ды змагацца толькі з дыктатурай Лукашэнкі, то такое сьляпое змаганьне, калі б яно было пасьпяховым, можа прывесьці толькі да аднаго выніку: *да зьмены адной расейскай крэатуры (Лукашэнкі) іншай крэатурай.* І ўсё паўторыцца.

(Падобная сітуацыя была разыграна ў 1994 годзе, калі дрэннага прарасейскага Кебіча зьмянілі на „лепшага" прарасейскага Лукашэнку.)

...Адсюль жа вынікае іншае відавочнае палажэньне: за акупацыйнай дыктатурай Лукашэнкі ня можа быць дэмакратычных выбараў парляманту. Выбары будуць абавязкова недэмакратычныя. Бо яны накіраваныя ня толькі на захаваньне ўлады дыктатара, але, перш за ўсё, на працяг акупацыйнай палітыкі Расеі. Лукашэнку і яго расейскім заплечнікам абходзіць правесьці любыя выбары ў парлямант Беларусі, любым спосабам (хоць напралом), але каб стварыць поўнасьцю свой парлямант і мець магчымасьць паставіць пытаньне пра легалізацыю сваёй улады. *Расейцам патрэбны „свой" кішэнны парлямант* у Беларусі, каб легальна праводзіць праз яго інтэграцыйныя акты паэтапнага аншлюсу нашай краіны і дамагацца потым іхняга прызнаньня міжнароднай супольнасьцю.

У некаторых беларусаў складваецца ўражаньне, што Захад не разумее сутнасьці беларуска-расейскага канфлікту і зьместу драматычных падзеяў на Беларусі і таму падтрымлівае якраз тое „сьляпое" змаганьне толькі з дыктатурай Лукашэнкі за дэмакратыю і правы чалавека.

Аднак аналіз паказвае, што Захад у цэлым ужо арыентуецца ў сітуацыі, але ён ня здольны зрабіць выбару паміж Беларусьсю і Расеяй. Ён трымаецца найгоршай тактыкі: падтрымлівае беларускі

ніякай дапамогі, нягледзячы на скаргі параненага пра дрэннае самаадчуваньне.

Гэта ўжо другая скарга *Ю.Беленькага.* Савецкая пракуратура Менску адмовіла ва ўзбуджэньні крымінальнай справы па факце нанясеньня *сп.Беленькаму* цяжкіх цялесных пашкоджаньняў і адмове ў своечасовай мэдычнай дапамозе.

*Спадар Беленькі* і яго адвакат *В. Страмкоўская* маюць намер дамагацца ўзбуджэньня крымінальнай справы і правядзеньня аб'ектыўнага рассьледваньня.

*16 жніўня* распачалі стыхійны страйк рабочыя Стаўбцоўскага машынабудаўнічага заводу. Прычына страйку — двухмесячная нявыплата заробку. 17 жніўня на працу ня выйшлі каля дзьвюх тысячаў рабочых завода.

## ЗАХАВАНЬНЕ СУВЕРЭНІТЭТУ І ЎМАЦАВАНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ —САМАЯ ВАЖНАЯ ЎМОВА ДЗЕЛЯ АДНАЎЛЕНЬНЯ ПРАЎНЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ Ў БЕЛАРУСІ

...Дыктатура і рэжым, устаноўленыя на Беларусі, не зьяўляюцца вынікам унутранага канфлікту грамадзкіх сілаў. Гэта ёсьць канфлікт, *прынесены звонку і абумоўлены ён палітыкай расейскага* вялікадзяржаўнага шавінізму, які паставіў на мэце аднавіць расейскую дзяржаву ў межах былога СССР.

Гэтую палітыку расейскае кіраўніцтва, і перш за ўсё КГБ, пачалі яшчэ ў 1992 годзе. Сістэмна яна была сфармуляваная ў сакрэтнай дактрыне, падпісанай Ельцыным, аб дзеяньнях Расеі ў дачыненьні да краінаў СНД. Распрацоўка была падрыхтаваная ў жніўні 1995 г. У гэтым жа годзе тэкст гэтага таемнага дакументу стаў вядомы на Беларусі і быў надрукаваны на Ўкраіне, украінскім РУХАМ. Усе наступныя гады і цяпер мы назіраем, як выкладзеныя там рэваншысцкія імпэрскія пляны расейская ўлада імкнецца ажыцьцявіць.

дэмакратычны рух і — заплюшчвае вочы на расейскі імпэрыялізм.

У рэальнасьці гэта ёсьць спрыяньне самым цёмным сілам у расейскай імпэрскай палітыцы (КГБ-НКВД-ФСБ), якія цяпер поўнасьцю захапілі абсалютную ўладу ў Расеі. Гэтак жа, як у Беларусі, да ўлады ў Расеі прышлі не ліквідаваныя пасьля распаду КПСС і СССР савецкія спэцслужбы, якія былі асновай камуністычнай сістэмы, стварылі ГУЛАГ і зьнішчылі дзясяткі мільёнаў людзей. Гэта трывожная гістарычная і буйная палітычная падзея. Нават у СССР усемагутны НКВД ня меў абсалютнай улады. Цяпер у яго руках усё. Палітыка, якую пачалі праводзіць рускія кагэбісты, можа скончыцца толькі калючым дротам і вайной, пагрозай для ўсёй Эўропы.

Для нас, беларусаў, гэтая палітыка і раней, і цяпер нясе вялікія няшчасьці, страту незалежнасьці, этнацыд і вынішчэньне. Мы шукаем разуменьня, агульных інтарэсаў і салідарнасьці на Захадзе.

*Дэмакратыя, справядлівасьць, законнасьць, парляментарызм, забесьпячэньне правоў чалавека — усё гэта магчымае толькі тады, калі мы абаронім наш дзяржаўны суверэнітэт і гарантуем нацыянальную незалежнасьць.* ***Незалежнасьць ёсьць свабода.*** Менавіта ў гэтым кантэксьце *абарона незалежнасьці Беларусі ёсьць цяпер найважнейшым пытаньнем беларускага грамадзтва.*

Мы, беларусы, ніколі не прызнаем акупацыйных выбараў, праведзеных акупацыйным рэжымам. Мы стаім на законных, праўных пазыцыях і спадзяёмся на салідарную падтрымку міжнароднай супольнасьці.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

*(Вытрымкі з дакладу, прачытанага 29.09.2000 г. на Міжнароднай канфэрэнцыі ў Вільні: „Разьвіцьцё парляментарызму ў Рэспубліцы Беларусь")*

## ЛУКАШЭНКА, ПРЭЧ!

6 верасьня ў Нью-Ёрку распачаўся саміт тысячагоддзя — 55-я Генэральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных нацыяў.

Падчас саміту, у якім бралі удзел больш за 150 лідэраў краінаў сьвету, у Нью-Ёрку адбылася 41 дэманстрацыя, а дазволы ўладамі выдадзеныя былі на 91 дэманстрацыю супраць дыктатараў.

6 верасьня ў Нью-Ёрку была арганізаваная таксама беларуская акцыя пратэсту супраць дыктатуры Лукашэнкі, прымеркаваная да яго прыезду на 55-ю Генэральную Асамблею ААН. Беларусы Нью-Ёрку правялі гэтую акцыю, каб зьвярнуць увагу на нелегітымнасьць сёньняшняе ўлады ў Менску, на парушэньне правоў і свабодаў грамадзянаў, этнацыд беларускае нацыі.

Акцыя пачалася апоўдні перад гатэлем Валдорф Асторыя, на рагу Парк Эвэню й 50-й вуліцы, у якім спыніўся ўзурпатар Лукашэнка. Стаўшы насупраць гатэлю, удзельнікі мітынгу, а іх сабралася больш за 50 асобаў, разгарнулі Бел-Чырвона-Белыя сьцягі й выставілі плякаты, на якіх былі асноўныя патрабаваньні — ***„Спыніць дыктатуру ў Беларусі!", „Лукашэнка — прэч!", „Не — расейскай анэксіі Беларусі!", „Жыве незалежная Беларусь!".*** Падчас акцыі ішоў нажыва рэпартаж для радыё „Свабода".



*Юры Беленькі выступае перад беларусамі ў Нью-Ёрку*

Недзе каля $12^{30}$ паліцыянты праінфармавалі маніфэстантаў, што машына з Лукашэнкам праехала з гатэлю ў штаб-кватэру ААН. Удзельнікі акцыі вырушылі туды па 1-й Эвэню, дзе працягнулі акцыю, скандуючы антылукашэнкаўскія лёзунгі, высока ўзьняўшы сьцягі й выставіўшы плякаты перад шматлікімі тэлекамэрамі. Назаўтра ў шмат якіх публікацыях узгадваўся пратэст беларускай дыяспары супраць прарасейскае дыктатуры ў Беларусі.

„Чаму мы аддаем свае працоўныя дні, каб выйсьці на дэманстрацыю з Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі? — кажа Ала Орса-Рамана. — Адказ вельмі просты. Мы хочам, каб Беларусь была незалежнаю, мы хочам, каб нашыя людзі жылі вольна, каб маглі зарабляць, каб было чым дзяцей карміць, каб нашая моладзь ня йшла ў турму і не ваявала за расейцаў, мы хочам, каб Беларусь была Беларусьсю".

***(Паводле матэрыялаў „Весткі й паведамленьні" і Галіны Прыгары)***

## ЮРЫ БЕЛЕНЬКІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

У суботу 16-га верасьня ў залі беларускай царквы на Атлянтык-эвэню 401 у Брукліне адбылася сустрэча беларусаў-эмігрантаў з выконваючым абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" дэпутатам Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня спадаром ***Юры Беленькім.***

У залі сабралася даволі значная грамада людзей, перадусім тых, якія ад'ехалі з Бацькаўшчыны ў цягу апошніх 4-5 гадоў і на ўласным досьведзе ведаюць, што такое акупацыйны рэжым на Беларусі. На працягу гадзіны спадар Беленькі распавядаў пра сітуацыю на Беларусі, аналізаваў канкрэтныя дачыненьні ў эканоміцы, прыводзіў наглядныя прыклады прарускай акупацыйнай палітыкі ў эканоміцы,

сьведчаньні рабаваньня беларускага народа і эксплуатацыі беларускай працы, прадуманага заняпаду і сплянаванай беднасьці людзей.

Даклад выконваючага абавязкі кіраўніка Фронту ў Беларусі выклікаў сярод нью-ёрскіх беларусаў жывую зацікаўленасьць. Потым паўтары гадзіны спадар Беленькі адказваў на розныя пытаньні прысутных, а пасьля яшчэ доўга не разыходзіліся, размаўлялі і дыскутавалі ў кулуарах.

Старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк расказаў пра перасьлед фронтаўцаў і пра спробу забойства Ю.Беленькага жаўнерамі „спэцназу" 25 Сакавіка гэтага году прадчас вайсковай апэрацыі рэжыму супраць беларусаў у Менску. (Пра гэта ўжо пісалася ў „Беларускіх Ведамасьцях".) Больш двух месяцаў лячыўся спадар Ю.Беленькі пасьля нападу, зьверскага зьбіцьця і пакутаў у арыштанцкай камэры, дзе яму спэцыяльна не рабілі ніякай мэдычнай дапамогі, ня гледзячы на яго патрабаваньні, цяжкі стан і пакуты.

Тым часам спадар Ю.Беленькі глядзіць аптымістычна ў беларускую будучыню і прывёў аргуманты, чаму рэжым Лукашэнкі асуджаны на паразу, а Беларусь жыве і будзе жыць.

***Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ***

# БЕЛАРУСЫ ПАД АКУПАЦЫЯЙ:

## Мэдаль ад Леніна

*(Успамінае Уладзімер Ціхановіч)*

Было гэта ў 1970 г. Імпэрыя рыхтавалася сустрэць 100-годдзе У.Леніна. Я вучыўся ў тэхнікуме, а мой старэйшы брат ужо чатыры месяцы служыў у марской пяхоце Балтыйскага флёту. Лісты ад яго прыходзілі рэгулярна. Брат паведамляў, што служба ідзе добра, што працуе ў рамонтнай майстэрні. І вось у чарговым лісьце ён паведаміў, што перавялі яго ў артылерыйскі аддзел, і трэба было б папрасіцца назад у майстэрню. Маці адказала яму, што служыць трэба, дзе камандзіры паставілі — ім зьверху лепш бачна. На гэта брат даводзіў: „Калі хочаце, каб жывым вярнуўся, трэба прасіцца назад".

Чарговы ліст прыйшоў з затрымкай, і ўжо са шпіталю. Брат паведамляў, што быў на манэўрах і бачыў яркую ўспышку* пры выбуху снарада. Маці паехала да яго. Нібыта яму стала лепш. Ён нават сам выходзіў да яе на двор. На разьвітаньне сказаў, што скора будзе здаровы. Але наступны ліст за яго пісаў ужо сусед па палаце — брат страціў зрок.Стала вядома, што ў яго рак мазгоў. Брат ужо не ўставаў з ложку.

На апошнюю апэрацыю выклікалі маці. На яе руках ён і памёр, трохі не дажыўшы да свайго 20-годдзя. Апошнімі яго словамі былі: „Я буду жыць, мама".

Мяне выклікалі з заняткаў і паведамілі, што здарылася. Маці чакала мяне на аўтавакзале на Камароўцы. За ўсю дарогу не сказала ані слова. І толькі зайшоўшы ў хату, загаласіла. Гэтае галашэньне аб згубленым сыне, аб нясправджаных марах засталося са мной на ўсё жыцьцё.

Цела чакалі чатыры дні. У цынкавай труне яго прывезьлі ў суправаджэньні трох матросаў і маёра мэдслужбы, які даводзіў, што ў галаве кожнага чалавека ёсьць ракавая клетка, але ня ў кожнага яна перарастае ў ракавую пухліну.Цяпер ужо, мауляў, усе ведаюць, ад чаго ўтвараецца гэтая пухліна, бо на людзях праводзілі экспэрымэнты. І застаўся нам ад брата мэдаль „К 100-летію со дня рожденія В.І.Леніна".

У верасьні 1991 г. на пляцы Незалежнасьці адбывалася сустрэча з маткамі, сыны якіх загінулі падчас службы ў савецкім войску. Капітан з вайсковай часткі ва Ўруччы распісваў, як добра служыцца ў яго аддзеле, як добра жаўнераў кормяць, на якіх ложках яны сьпяць... А маткі хацелі даведацца, пры якіх абставінах загінулі іхныя сыны, прагнулі пакараньня вінаватых. Каб тыя, хто служыць цяпер, вярнуліся дадому жывыя.

Год 2000. У Расеі патануў „Курск". Ізноў выпрабаваньні зброі, загінулі маладыя людзі. Я пытаюся: а колькі загінула б на гэтай падлодцы беларусаў, калі б усё яшчэ сядзелі ў савецкім саюзе?

* яркай успышкай звычайна суправаджаецца выбух ядзернага зараду (рэд.)

## Немцырускія

*(Успамінае Яўген Буйвал, Гомель)*

Немцы падганялі нас (а былі сярод нас і жанчыны, і старыя) на самы фронт і прымушалі капаць акопы. Часам мы яшчэ працавалі, як пачынаўся бой. Наступалі рускія, ясна чулася іхнае „ўра", а шыхты падбягалі так блізка, што здавалася, можна было разглядзець твары. Праз дзесяцігоддзі я даведаўся, што на гэтым напрамку наступала 48-я армія татарскага генэрала Булатава, дзе служыў мой бацька Апанас. Немцы пасьпешліва адыходзілі, паўз нас праязджалі гарматныя ўстаноўкі, зь якіх зьвісалі трупы ў шынялях мышынага колеру. Нас гналі далей, як сабак. І так паўтары гады праз Беларусь, Усходнюю Прусію і Польшчу.

Настала вясна 1945-га. Самалёты бомбяць дзень і ноч, навокал шмат забітых людзей, каней, кароў. Але нешта пачало мяняцца. Аднойчы бачым — вісяць чатыры нямецкія жаўнеры з фанэркамі на грудзях. Пакараныя дэзэртыры. У канцлягеры Штутгоф, непадалёк ад Балтыйскага мора (цяпер там мэмарыяльны музэй), была цьма народу, і ў бараках, і пад голым небам. Штоноч лягер бамбавалі рускія жаночыя эскадрылы. Я не заўважыў, як забіла асколкам майго сябра, што спаў нада мной на нарах. А раніцой бачу: нацякло цэлы кацялок крыві. Самога аднойчы ад выбуху прысыпала зямлёй так, што тырчэлі толькі тры пальцы. Хлопцы заўважылі і адкапалі. Дзесьці 4-га ці 5-га траўня, падчас налёту, мы заўважылі дзірку ў агарожы і чалавек дзесяць уцяклі. Хаваліся ў хмызьняку, ня ведалі пра нямецкую капітуляцыю. Раптам 10-га, а можа 11-га траўня, убачылі рускіх, кінуліся да іх цалавацца. Гэта ізноў была тая ж 48-я армія. Толькі з бацькам я не сустрэўся, ён загінуў на Беласточчыне. „Асвабадзіцелі" здалі нас грузінскаму СМЕРШу. І нас зноў пагналі, толькі цяпер у адваротным накірунку. Паўз нашу калёну праязджалі грузавікі, поўныя вызваленых вязьняў: французы, бэльгійцы, палякі, грэкі... Радасныя, са сьпевамі, з нацыянальнымі сьцягамі. Перад нашай калёнай ехалі грузіны і сустрэчным вайскоўцам казалі, што гоняць паліцаяў, ворагаў народу. Сустрэўшы потым нас, жаўнеры пыталіся: „Хто з Разані, хто з Кіева?" І білі землякоў. Уначы грузіны катавалі, дамагаліся, каб кожны падпісаўся ў супрацоўніцтве зь немцамі. Некаторых хлопцаў, што перажылі гітлераўскую няволю, расстралялі. Мне давялося яшчэ два гады мучыцца ў горкаўскім лягеры (там няма мэмарыялу). Там пазнаёмілі нас з рускімі катаваньнямі. Зальюць бэтонны мяшок вадой і стаіш усю ноч, задраўшы нос. Заціскалі пальцы ў дзьверы, і ня толькі пальцы. Пацукі асьмялелі, нападалі на нямоглых людзей. Штораніцы НКВД вывозіла па два грузавікі трупаў „ворагаў народу".

Беларусь я пабачыў толькі ў 1948 г., а канчаткова вярнуўся з Расеі ў 1956-м.

# БЕЛАРУСЫ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ СТВАРЭНЬНЕ МУЗЭЮ ГЕНАЦЫДУ Ў КАНАДЗЕ

Мы ўжо пісалі, што Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК) ёсьць сябрам канадыйскае арганізацыі „Canadians for a Genocide Museum", арганізацыі, якая працуе над тым, каб дамагчыся ад ураду Канады стварыць „Inclusive Genocide Museum", што значыць Музэй

Генацыду, які ўключыў бы (ушанаваў бы памяць) ахвяраў генацыду ўсіх народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у Канадзе, а ня толькі аднаго.

На працягу гісторыі Беларускі народ шмат цярпеў ад масавых вынішчэньняў, ды найболей страшным ёсьць генацыд, дакананы над ім камуністычным тэрорам.

*Толькі ў часе Сталінскага тэрору 1930-х гадоў было зьнішчана 2 мільёны 200 тысячаў беларусаў* **(2,2 мільёны)**.

Столькі ж загінула й у часе 2-й Сусьветнай вайны — **2,2 мільёны**.

Агульны дэмаграфічны дэфіцыт (улічваючы й ненароджаных) толькі за 20 гадоў (ад 1939 да 1959), як аблічана навукоўцам др. Вітаўтам Тумашам, **выносіць панад шэсьць мільёнаў**.

Цяпер пішуць, што Беларускі народ вымірае... Дзіва што! Яго акупанты сыстэматычна вінішчаюць — чыняць над ім генацыд, ды выганяюць у эміграцыю.

Памятаеце, у 80-х гадох у газэце „Літаратура й мастацтва" артыкул Зянона Пазьняка *„Курапаты — Дарога сьмерці!"*, а пасьля кнігу, выданую Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку „КУРАПАТЫ", пасьля *„Крыж Пакутнікам Беларусі" у Курапатах*, да якога 21 чэрвеня 1993 г. мы зрабілі паломніцтва — перад Першым Зьездам Беларусаў Сьвету ў Менску ў ліпені 1993 году?

Усе гэтыя падзеі пераканалі беларусаў Канады ўзьнесьці каля Беларускага памятнага Крыжа ў Прошчы ў Мідляндзе, Антарыё помнік ***ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІСТЫЧНАГА ТЭРОРУ Ў БЕЛАРУСІ***; памяці нашых бацькоў, братоў, сыноў, што былі расстраляныя ў Курапатах, што загінулі ад зьдзекаў у савецкіх турмах, ссылках, канцэнтрацыйных лягерах. Помнік быў асьвечаны айцом Аляксандрам Надсанам у часе восьмага паломніцтва да ***Беларускага Крыжа*** ў чэрвені 1996 году.

Калі ў 1998 годзе паўстала арганізацыя „Canadians for a Genocide Museum" (CGM), мы — ККБК — далучыліся да яе сяброўства.

Арганізацыя Canadians for a Genocide Museum працавала таксама над тым, каб у школах Антарыё быў уведзены дадатковы прадмет пра генацыд над людзтвам, пра тое зло, якога ў сьвеце не павінна быць. У выніку стараньняў *CGM* некаторыя школы Антарыё ўносяць у праграму пардмет дасьледваньняў пра генацыд. Дзеля гэтага ім патрэбныя канкрэтныя матэрыялы пра генацыд, дакананы над рознымі народамі.

Вось жа, як мы ўжо падалі ў ***York Region District School Board Genocide Studies*** зьвесткі пра Беларусь ды „брыф" на тэму ***„Genoicide by Communists and Nazis in Belarus***.

Апрача гэтага *CGM* пасьпяхова ўжо закончыў працу над трэцім праектам абвешчаньня *Тыдня Генацыду ў Антарыё*.

***Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ***

*(Камунікат №8, верасень 2000г.)*

# АКУПАЦЫЙНЫ РЭЖЫМ НЯЎХІЛЬНА ЗАДУШВАЕ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

*Найбольшай сілай і самым галоўным чыньнікам, які стварае і захоўвае нацыю, ёсьць нацыянальная мова.* ***Пакуль жыве нацыянальная мова — існуе нацыя.*** *Ня дзіўна, што акупанты ды асімілятары ўсіх часоў і народаў, калі хацелі зьнішчыць чужы народ і не маглі гэта зрабіць фізычна, то галоўным чанам стараліся зьліквідаваць ягоную мову. Гэтай разбуральнай задачы былі падпарадкаваныя ўсе астатнія іхныя дзеяньні (зьнішчэньне гістарычнае памяці, разбурэньне культурных здабыткаў, нішчэньне гаспадаркі, краявіду, маралі, традыцыяў, выкліканьне штучнай міграцыі, голаду, зьбядненьня і г.д.).*

*Рускія акупанты, якія захапілі ўладу ў Беларусі знутры, робяць тое ж самае, каардынуючыся з Масквой. Беларускія школы яны ўжо практычна зьнішчылі. Цяпер дабіваюць рэшткі ўсялякага навучаньня па-беларуску і магчымасьці сістэматычнага вывучэньня беларускай мовы.*

* * *

Паводле папярэдніх зьвестак, сабраных *Таварыствам Беларускай Мовы*, менш за 4% сталічных першаклясьнікаў распачнуць 1 верасьня сваю навуку па-беларуску. Адной з прычын нежаданьня бацькоў аддаваць сваіх дзяцей у беларускія клясы застаецца адсутнасьць у краіне сістэмы шыракапрофільнай вышэйшай асьветы па-беларуску. Аднак жа на нядаўняй прэс-канфэрэнцыі Міністар адукацыі Беларусі расеец В.Стражаў чарговым разам заявіў, што ў Беларусі „няма патрэбы" стварэньня Беларускага нацыянальнага унівэсітэту. Ініцыятыву заснаваньня такой ВНУ падтрымалі ўжо звыш 30 тысячаў жыхароў краіны (сабрана подпісаў).

Ужо сёньня відавочна, што захаваецца тэндэнцыя апошніх пяці год — тэндэнцыя зьмяншэньня колькасьці школьнікаў, якія вучацца ў школах Беларусі па-беларуску. Вось толькі некалькі фактаў, сабраных *ТБМ* ў рамках маніторынгу беларускамоўнага навучаньня. Чакаецца, што ў падрыхтоўчых клясах менскіх школаў навучаньне па-беларуску распачнуць толькі каля 500 вучняў. Калі гэтую колькасьць падзяліць на колькасьць сталічных школаў, выйдзе, што на адну школу прыпадаюць два такія вучні. Вядома таксама, што ў Слуцку няўдачаю скончыліся спробы энтузіястаў адкрыць, прынамсі, адну на цэлы горад беларускую клясу: такім чынам, у Слуцку першаклясьнікі па-беларуску навукі сваёй сёлета не распачнуць.

Аналягічная, як у Слуцку, сітуацыя ў Лагойску — таксама без беларускіх клясаў для вучняў-пачаткоўцаў.

Сітуацыя зь беларускамоўным навучаньнем пагаршаецца. Калі ўзяць статыстыку і параўнаць з 1993-94 гг., то ў 1993-94 гадах **58,6** адсотка школьнікаў Менску пачыналі беларускамоўнае навучаньне, а ў 1999-2000 гадох гэта было **4,7** адсоткі. Сёлета гэтая лічба будзе ўжо менш за 4 адсоткі менскіх школьнікаў.

Для пашырэньня сеткі школьніцтва, што навучаліся б па-беларуску, канечне, патрэбнае разьвіцьцё беларускамоўнай вышэйшай адукацыі. Гэта бясспрэчная ісьціна. І тут трэба змагацца з акупантамі.

„Усім зразумела,— кажа старшыня *ТБМ А.Трусаў* карэспандэнту радыё, — што пакуль ня будзе базавай вышэйшай беларускай навучальнай установы новага эўрапейскага тыпу накшталт Кэмбрыджу, Оксфарду, то будзе толькі пародыя на беларускамоўнае навучаньне.Мы зь верасьня пачынаем новую хвалю збору подпісаў. Так, напрыклад, толькі ў жніўні *вучні й настаўнікі Глыбоцкай школы №3 сабралі й перадалі нам* **494** подпісы — усе старэйшыя клясы падпісаліся. Мы цяпер ставім на мэце сабраць **100.000** подпісаў."

Гэта таксама мэтад змаганьня. Павінна быць засьведчана воля беларусаў, бо ніхто за іх і ніхто для іх, акрамя іх самых, для беларусаў нічога ня зробяць.

***(Паводле Беластоцкага радыё „Рацыя")***

# РАСЕЯЦ У БЕЛАРУСІ

Рускі афіцэр, звольнены з арміі на пэнсію, прыехаў у Менск на пастаяннае месца жыхарства з Байканура.* Жонка беларуска. Сыну 12 гадоў. Жаліцца мне: „Ведаеце, абышоў у Першамайскім раёне шмат школаў і не знайшоў аніводнай рускамоўнай".

„Як? — пытаюся я, — у нас жа наадварот: усе школы рускамоўныя, ніводнай няма беларускай."

Ён мне: „Ведаеце, ва ўсіх гэтых школах некалькі разоў на тыдзень вучаць беларускай мове, а мы ж расейцы, на што яна нам".

***А.Масюта***

* Расейскі ракетны і атамны палігон у Казахстане

Зянон ПАЗЬНЯК

# БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ ЖЫВЕ І ЗМАГАЕЦЦА

*(Кліўленд, 2 верасьня 2000г. 24-я Сустрэча беларусаў Канады і Паўночнай Амэрыкі)*

... Мы, беларусы, змагаліся за незалежнасьць Беларускай дзяржавы і за адраджэньне беларускай культуры 200 гадоў.Наш рух набыў грамадзкую сілу і мы яе засьведчылі па-сапраўднаму толькі тады, калі мы аб'ядналі нашу вызвольную барацьбу вакол беларускай нацыянальнай ідэі і канцэптуальна сфармавалі яе як ідэю *Адраджэньня.* У гэтай ідэі, у ідэйнасьці Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху ёсьць ягоная сіла і сакрэт незьнішчальнасьці. Усё астатняе, што ўзьнікла па-за ідэяй *Нацыянальнага Адраджэньня*, стаяла наўзбоч.

Першы вынік вялікай ідэі даў ***Сакавік 1918 года***, калі была адроджана беларуская дзяржаўнасьць. Ворагі Беларушчыны, і найперш рускі імпэрыялізм, выдатна разумелі сілу Беларускай ідэі. За пэрыяд бальшавізму было зьнішчана шмат беларусаў і разбурана шмат чыньнікаў беларускай культуры.

... Але вось у канцы 80-х, грунтуючыся на Беларускай Ідэі, ствараецца *Беларускі Народны Фронт „Адраджэньне"*. У ўсё аднавілася.

***Тое, што ў 1991 годзе, дастасаваўшы правільныя і сьмелыя дзеяньні, удалося вельмі малымі сіламі аднавіць дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб Пагоня — гэта ёсьць наша найвялікшая, найцудоўнейшая перамога ў XX-м стагоддзі, — найслаўнейшая „бітва пад Воршай".***

Для імпэрскай Масквы хуткае аднаўленьне дзяржаўнасьці Беларусі было поўнай нечаканасьцю. КГБ не магло гэта ўсьвядоміць. На нейкі момант яны разгубіліся. Але ўжо з 1992 года пачаўся асэнсаваны наступ на беларускую незалежнасьць.

Галоўны ўдар быў скіраваны супраць Беларускай Нацыянальнай ідэі і галоўнай адраджэнскай арганізацыі — *Беларускага Народнага Фронту.*

... Некаторыя лібэральна-дэмакратычныя колы на Захадзе прычыніліся да сьведамага аслабленьня беларускага адраджэнскага руху, робячы стаўку на добрыя дачыненьні з Расеяй. Дыктатура на Беларусі — гэта рэжым унутранай прамаскоўскай акупацыі, ажыцьцёўленай рускімі спэцслужбамі. Мэта рэжыму — інкарпарацыя Беларусі ў Расею і задушэньне беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Лібэральны Захад (і найперш Эўропа) ня хочуць бачыць канфлікту адраджэнскай Беларусі з вялікадзяржаўнай Расеяй, бо ня хочуць рабіць выбар. Яны вядуць двайную гульню, як у руска-чачэнскай вайне. А тым часам працягваецца генацыд і гіне чачэнскі народ.

Палітыка лібэральнай Эўропы на Беларусі заключаецца ў тым, каб шляхам перамоваў і выбараў стварыць фармальныя ўмовы для прызнаньня рэжыму Лукашэнкі, альбо пры дапамозе Масквы і коштам незалежнасьці Беларусі ажыцьцявіць тут фармальныя перамены ва ўладзе, назваць гэта перамогай дэмакратыі і „зачыніць пытаньне".

Тое, што за гэтым настане анэксія Беларусі Расеяй пад выглядам „аб'яднаньня" дзяржаваў — для іх не бяда. Анэксія будзе пададзена імі як унутраная справа абедзьвюх краінаў і як „дэмакратычны выбар" ейных народаў.

Нас не зьдзівіла, што два дні таму, 31 жніўня, сэсія АБСЭ ў Вене, ня гледзячы на ні бы та антылукашэнкаўскую пазыцыю, прыняла сьлізкае, невыразнае рашэньне, якое дае магчымасьць пасылаць назіральнікаў на антыдэмакратычныя выбары ў Беларусь (і тым самым закласьці падставы для прызнаньня выбараў).

Праводзячы ўзгодненую з Масквой палітыку, лібэральныя колы Эўропы зрабілі стаўку на агульнадэмакратычную фразэалёгію і маргінальныя арганізацыі ў Беларусі, не зьвязаныя (ці мала зьвязаныя) зь беларускім нацыянальным адраджэньнем. Створаны шэраг так званых „недзяржаўных арганізацыяў", якія спажываюць заходнія гранты і *гавораць пра правы чалавека, у той час, калі ўсіх правоў пазбаўлена беларуская нацыя і беларускі народ.*

Гэтую падвойную палітыку на Беларусі выяўляе, першза ўсё, кіраўнік Місіі АБСЭ ў Менску спадар **Ганс-Георг Вік**. Ён шмат прычыніўся да стварэньня канглямэрату так званай „аб'яднанай апазыцыі", зацягненьня грамадзтва ў перамоўны працэс і цяпер — у антыдэмакратычныя выбары кішэннага парляманту.

Менавіта сп.Вік, Адрыян Севярын і іншыя эўрапейскія дзеячы АБСЭ засьведчылі выразную прарасейскую антыбеларускую палітыку і выцягнулі на паверхню палітычнага жыцьця збанкрутаваных актывістаў з каманды Лукашэнкі, якія некалі спрыялі яго прыходу да ўлады і змагаліся супраць Беларускага Народнага Фронту. (Маюцца на ўвазе такія асобы, як Булахаў, Лябедзька, Чыгір, Фядута, Ганчар, Сініцын і іншыя).

Цяпер некаторыя зь іх называюць сябе „дэмапазыцыяй", атрымліваюць сродкі з Масквы, езьдзяць у Маскву і дамаўляюцца там аб сумесных справах па „дэмакратыі" і па інтэграцыі Беларусі ў Расею.

*Беларускі Народны Фронт і Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя — БНФ як арганізацыі Беларускага Вызвольнага Руху зрабілі шэраг захадаў, каб прадухіліць вынікі антыбеларускай палітыкі. Прынятыя дакуманты, дзе выяўленыя і прааналізаваныя антыбеларускія дзеяньні. Абгрунтаваны наш няўдзел у антыдэмакратычных парляманцкіх выбарах 2000 года, засьведчанае поўнае адмежаваньне ад „аб'яднанай дэмапазыцыі".*

Аналіз паказвае, што калі Маскве ўдасца шляхам прэзыдэнцкіх выбараў замяніць Лукашэнку на іншага свайго нібыта „дэмакратычнага" стаўленьніка, то гэта будзе для незалежнасьці Беларусі варыянт яшчэ горшы, чым прымітыўная і грубая дыктатура Лукашэнкі. Бо пад выглядам нібы та перамогі дэмакратыі адчыняць дарогу да „дэмакратычнага аншлюсу" нашай краіны.

* * *

Зараз Беларускім Народным Фронтам афіцыйна пастаўлена пытаньне аб антыбеларускай дзейнасьці кіраўніка Місіі АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка і аб выдаленьні яго зь Беларусі. Выказана патрабаваньне да АБСЭ спыніць прапаганду псэўдавыбараў у Беларусі і не прысылаць назіральнікаў на фальшывыя выбары...

*... Але нават у гэтых цяжкіх варунках Беларусь выглядае лепш, чым варварскі гнілы рэжым у Расеі.*

***У нас няма іншае будучыні, як сьветлая будучыня. Адчуйма ж гэта і набліжайма яе прыход.***

# ПРЭЧ МАСКАЛЁЎ!

15 кастрычніка, у дзень „выбараў" аб'явіўся *легендарны МІРОН*. Ён на васьмі накірунках уезду ў Віцебск (Полацкі, Старaполацкі, Піцерскі, Рубаўскі, Сураскі, Смаленскі, Сеньненскі, Бешанковіцкі) зьмяніў расейскія драўляныя васьмікутныя крыжы *на беларускія шасьцікутныя Эўфрасіньні Полацкай бяз скосіны.*

Пад адным зь іх пакінуў цыдулку: ***„НЕ — АБМАСКАЛЕНЬНЮ БЕЛАРУСАЎ! МІРОН."***

***(„САНА")***

# ЛУКАШЭНКА КІРУЕ

Верталёт А.Лукашэнкі прызямліўся на полі ў Мсьціслаўскім раёне, каб паглядзець, што сталася з рэгіёнам пасьля таго, як больш года таму было зьмененае ўсё ягонае кіраўніцтва, а старшыня райвыканкаму зараз ужо асуджаны. Уражаньне было „жахлівае", „тут адсутнічае і працоўная, і тэхналягічная дысцыпліна". Ён заявіў, што жорстка распарадзіўся „увесьці на Мсціслаўшчыне ну проста ваеннае становішча". А раней ён тлумачыў народу, як трэба працаваць: „па адмашцы" (?), з золку да захаду, ні кроку налева, ні кроку направа, як сыйшоў з поля без дазволу — няма зарплаты, няма працы, зьязджай адсюль". Толькі так, паводле меркаваньня Лукашэнкі, можна выратаваць гэты раён.

Але зь ім, відаць, ня згодныя жыхары, якія і ў Мсьціслаўскай вёсцы, і ў адносна дабрабытных Горках скардзіліся на нізкія заробкі, на высокія цэны.

(Лукашэнка паабяцаў, што ліміт павышэньня цэнаў выбраны. Цяпер будуць павышаць заработныя платы. Народ радасна рэагаваў на такія зьвесткі.)

Прынцыпова кожны раз рэакцыя тутэйшых людзей на візіт Лукашэнкі аднолькавая: усе злуюцца, бо бачаць, як чысьцяць вуліцы і выганяюць тэхніку на палі спэцыяльна для Лукашэнкі. У гутарках паміж сабой клянуць сваё жабрацкае жыцьцё, але як толькі прыязджае начальнік рэжыму, яны кажуць, што праблемаў няма і жыць ім з кожным годам усё лепей.

А.Лукашэнка быў вельмі задаволены эфэктам ад сваёй жорсткай нарады 15 жніўня. Ужо 16-га раніцай Магілеўшчына рапартавала яму аб выплаце ўсіх грошай за збожжа, якое было здадзена раней, і нават выказала імкненьне праплаціць авансы.

Вельмі высокі эфэкт кіраваньня. Як у Паўночнай Карэі, ня менш.

***(М.Усьціновіч. Паводле Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода")***

# ПРЭС-РЭЛІЗ

■ (*„Народная Воля", жнівень*) Прафэсар ***Іван Нікітчанка***. „Ці абыйдземся мы без картачак на хлеб?" За апошнія 5 год зборы збожжа ў Беларусі пастаянна зьмяншаюцца. Ураджайнасьць дасягнула ўзроўню сярэдзіны 1960-х гг. Пік падзеньня прыйшоўся на 1999 г. Гэты правал мы адразу адчулі ў крамах. Адразу скарацілася вытворчасьць і рэалізацыя прадукцыі жывёлагадоўлі. З-за недакорму жывёлы рэалізацыя мяса зьменшылася на 73 тыс. тон. Вытворчасьць малака таксама ўпала на 400 тыс. тон. З-за недахопу кармоў на 310 тыс. скарацілася пагалоўе буйнарагатай жывёлы, на 23 тыс. кароў, на 80 тыс. сьвіней і г.д. Наступствы гэтага мы яшчэ адчуем. Другі вынік гэтага — неверагодны рост цэнаў. З сярэдзіны мінулага году цэны на мяса, малако і на прадукты зь іх выраслі ў 2-4 разы. Тэмпы росту цэнаў на хлеб і макаронныя вырабы прыкладна такія ж. Заявы Лукашэнкі аб вытворчасьці ў 2000 г. (6,5 тысячаў тонаў збожжа) —чыста прапагандысцкі трук. Паводле прагнозаў спэцыялістаў, сёлета можа быць рэальна сабрана толькі каля 3 млн. тонаў збожжа (або на 15-20 адсоткаў менш, чым за мінулы год. *Папершае*, з 2805,7 тыс. гэктараў пасеваў збожжавых больш як 200 тыс. загінулі з-за нізкіх тэмператураў і пылавых бураў. *Па-другое*, не хапала тэхнікі. Да таго ж, тэхніка прастойвала з-за вострага недахопу паліва. Таму пасяўная зацягнулася на паўтара з лішнім месяцы.

■ На банкаўскіх рахунках дзяржсакратара „саюзу" Беларусі і Расеі **Паўла Барадзіна** ў Жэнэве знайшлі і замарозілі мільёны даляраў. Пракурор Жэнэвы *Вэрнар Бэртус* расказаў у інтэрв'ю: „Пра Барадзіна мы ведаем шмат. Ён атрымліваў вельмі вялікія сумы грошай. Агульная сума замарожаных сродкаў па справах фірмаў „Мабэтэкс" і „Мэрката" складае 65 млн. даляраў. Мяне не хвалюе, што Барадзін — міжнародны беларуска-расейскі чыноўнік. Ён ня мае ў нас ніякага імунітэту."

■ Прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан прыняў рашэньне пазбавіць Беларусь права бязмытна ўвозіць свае тавары на амэрыканскі рынак. Прычына рашэньня — „урад Беларусі працягвае абмяжоўваць правы прафсаюзаў і пераследуе прафсаюзных лідэраў." Каля 140 краінаў маюць права ўвозіць на амэрыканскі рынак пэўныя тавары бязмытна. Аб'ём бязмытнага экспарту зь Беларусі ў ЗША ў 1999 г.склаў 26,7 млн.даляраў.

■ *„Свабода"* ***Васіль Быкаў***: „Эканамічныя абставіны жыцьця цяжкія ў Беларусі, але галоўнае — не яны. Перадусім невыносным зрабіўся палітычны клімат. Я асабіста стаў аб'ектам нападаў афіцыйнай прапаганды, якая намагаецца прадставіць мяне як ворага народу. Дыктатар узяў кантроль над сфэрай культуры, а таксама над паліграфіяй ды іншымі тэхнічнымі сродкамі, што паставіла ў цяжкую сітуацыю ўсё пісьменьніцкае жыцьцё краіны. Нашая мова, нашая культура, нашае духоўнае жыцьцё зьнішчаюцца. У гэтакіх абставінах я проста ня мог жыць і пісаць. І так мушу лічыць за шчасьце, што выехаў, бо мноства беларускіх творцаў ня маюць шансу на такі выезд."

■ Першы беларускі касманаўт Пётр Клімук, які жыве ў Расеі, наведаў родную вёску Тамашоўку. Ён расказаў вяскоўцам, што вяртаецца ў палітыку. Раней ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. А цяпер — старшыня грамадзкай палаты „саюзнага" аб'яднаньня Беларусі і Расеі. Клімук згадаў пра „нацыяналістаў", якія не разумеюць усю карысьць „аб'яднаньня".

■ (*Францыя, „Ля Лібэрасьён", 18 жніўня*) „Пуцін, калі здарылася катастрофа (падводнай лодкі „Курск") прадэманстраваў сваю схільнасьць да сакрэтнасьці і хлусьні. Учора такой тактыкі яны прытрымліваліся ў імя гонару сацыялізму. Сёньня кажуць пра „нацыянальны гонар". Але першым рэфлексам застаецца па-старому ахвярапрынашэньне чалавечага жыцьця ў сьмешным спадзяваньні выратаваць твар кіраўніка дзяржавы."

■ (*„Лё Фігаро", 19 жніўня*) „Час пацёмкінскіх вёсак у Расеі не мінуў. За іхным фасадам хаваецца змрочная рэчаіснасьць у выглядзе каласальнай уладнай хлусьні."

■ (*„Незавісімая газета", „Новые Известия"*) Галіна Вішнеўская, расейская опэрная сьпявачка: „Што тычыцца здольнасьці красьці, то расейцы пераўзышлі іншых. Але ж і краіна вялікая — ёсьць што красьці."

■ Уладзімер Салаўёў, расейскі філёсаф: „У нас сумленныя людзі сустракаюцца больш рэдка, чымсьці сьвятыя."

■ (*„Народная Воля", „Наша Свабода", радыё „Свабода"*) У Лёндане выступіў яшчэ адзін „абаронца інтарэсаў беларускай незалежнасьці" — намесьнік міністра замежных справаў Вялікай Брытаніі **Койт Воз**. Падчас дэбатаў па Беларусі ў брытанскім парляманце ён выступіў з „лекцыяй" для беларускай апазыцыі, пазнаёміўшы яе з вопытам вядомай амэрыканскай дэмакратыі ў ... Зімбабве (нагадаем, што там дзе-нідзе ядуць людзей): „Як паказаў досьвед выбараў у Зімбабве, удзел у выбарах можа азначаць фармаваньне важнай заявы, калі ўмовы для выбараў не зьяўляюцца справядлівымі і сумленнымі". Далей ён згадаў нашага мясцовага Мабуту: „Прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ў 2001 г., безумоўна, могуць стаць для ўладаў магчымасьцю зрабіць крок у бок дэмакратыі". вось такія заходнія „рупліўцы" прапануюць беларусам разам з дыктатурай ісьці, крок за крокам, у сьветлую будучыню. У 1938 г. у Мюнхэне гэтакія „дзеячы" здалі Гітлеру Аўстрыю і Чэхаславаччыну.

■ Сэнат Чэхіі прыняў пастанову па Беларусі, у якой заяўлена, што сэнат „выказвае жаданьне разьвіваць усебаковыя адносіны зь беларускім народам і яго дэмакратычна абранымі прадстаўнікамі, выказвае занепакоенасьць задушэньнем правоў чалавека, палітычных правоў і свабодаў у Беларусі, заклікае ўрад Чэскай Рэспублікі на ўсіх міжнародных форумах патрабаваць аднавіць дэмакратыю і захоўваць правы чалавека ў Беларусі".

***Валеры Буйвал***

# ПАМЯЦІ ЯЎГЕНА ШМЫГАЛЁВА

*1-га верасьня памёр Яўген Ігнатавіч Шмыгалёў. Меў 72 гады. Вечная памяць.Пухам зямля.*

Яўген Ігнатавіч выклікаў павагу душы. Ён быў сумленным, справядлівым, надзейным і вельмі сьціплым чалавекам, адначасна — моцным беларусам, прыхільным хрысьціянінам. Яшчэ ў 70-х гадох мы хадзілі зь ім па лесе сярод курапацкіх магілаў, гаворачы пра злавесную таямніцу бальшавікоў. Потым у 80-х, калі ўдалося яе раскрыць, мы ня раз абмяркоўвалі гэтую падзею і прыходзілі да высновы пра Боскую Волю. Аж ня верылася, што ўдалося перамагчы і КПСС, і КГБ, і Савецкі Саюз.

У 90-х я рэдка бачыўся зь Яўгенам Шмыгалёвым. Мяне паглынула палітыка. Апошні раз я спаткаўся зь Яўгенам Ігнатавічам увосень 1995 года. Ён быў як заўсёды спакойны, але вельмі сумны.

— Што з табой, Ігнатавіч? Што за бяда?

— Бяда, — паўтарыў Шмыгалёў. І потым, пасьля доўгага-доўгага маўчаньня сказаў мне, што моцна хворы невылечнай хваробай, ад якой памёр і яго бацька. Сказаў, што яму адмерана яшчэ паўтары, ад сілы — два гады.

Цяжкае гэта было прызнаньне.

Цяпер яго ўжо няма. Але засталіся для Беларусі ягоныя добрыя справы, ягоная сьціплая дапамога, а ў сэрцах усіх нас, што ведалі яго, — сьветлы вобраз сьветлага чалавека зь беларускай душой і нязломнай верай.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ANALYSES OF THE POLITICAL SITUATION IN BELARUS

The political, economical, social processes, which are going on in Belarus, should be regarded in the common context of Russia's policy concerning West. The matter is that ***Russia has been leading clandestine aggressive policy about Belarus***. Such actions have become stronger since Lukashenka came to power. In the structures of power Belarusians have been gradually replaced by Russians. Everything has been done under control of Russian secret services and Belarusan KGB, which remain the main parts of the KGB system of the former USSR and haven't been destroyed. Lukashenka is their henchman since 1994, and he is realizing the Russian policy in Belarus. In November 1996 the main Russian political forces have been mobilized to save Lukashenka when the parliament tried to dismiss him by the impeachment. The arrival of the high level Russian politicians **Tchernomyrdin**, **Seleznev**, **Stroev**, **Primakov** etc. to Minsk in a such situation was a direct interference to the inner affairs of Belarus. They have saved Lukashenka and supported his anti-constitutional coup d'etat. According to Russian's plans the final stage of entire occupation of Belarus must take place as the result of realization of Yeltsin-Lukashenka pact signed on December 8.1999. After signing and rapid ratification of the pact by the State Duma of RF and by the illegal „chamber of representatives" of Belarus on 13. and 14. December 1999 intensive activities have been started on attaching Belarusian economy, Belarusian security system and army to those of the Russian.

With such purposes some high-rankers from Russian government have visited Minsk since the beginning of 2000: *Vice-Premier* **Kasyanov** and *Head of Central Bank of RF* **Geraschenko**, *Vice-Premier* **Klebanov** (who supervises Military Industrial Complex, MIC), *Foreign Minister* **Ivanov**, *Minister of Internal Affairs* **Rushaylo**, *Russian president's representative in Chechnya* **Koshman**.

Under Moscow's pressure (that's why Mr. Mr. Kasyanov and Klebanov visited Minsk) the replacement of the premier of Belarus S.Ling by V.Yermoshin took place. Mr.**Yermoshin is a Russian**, *he is connected with the military-industrial complex. After Yermoshin's assignment the replacement of Belarusian personnel to the Russian personnel will become wider either in governmental structures or in industry.* The dismissal of the first vice-premier Belarusan Mr.**Daugalev** on March 14, 2000 and the appointment to the post of **a Russian** Mr.**Kobiakov** confirms this tendency.

**Today the government of Belarus is not Belarusan.** Vice-premiers and ministers Mr.Mr.**Zametalin**, **Kokarev**, **Latipov**, **Tchumakov**, **Sivakov**, **Shimov**, **Stragau** and others are proteges of Moscow, who carry out certain plans.

Here is a small part of this policy:

**1.** The agreement on unification of the Moscow military district and Belarusian army into Western Military Group is being realized according to the information from Defence Minister Tchumakov strategy aviation of Russian airforces feels home on the airdromes of Belarus. Common commanding points are being created. That is besides the unification of the anti-aircraft defence and the beginning of testing exploitation of RLS of wide action near Baranavichy.

**2.** The enterprises of Belarus are being included into Financial Industrial Groups (FIG) of Russian's MIC. Thus the association of microelectronics „Integral" and the association of electronic machinery „Planar" have been included into Russian FIG „Electronic Technologies". Scientific-productive association „Agat" is a part of FIG „Granat", which deals wich the unification of the anti-aircraft defence systems CIS. During the visit of Russian Vice-Premier Klebanov the agreement on formation of interstate FIG „Defense Systems" was signed. This can be regarded as widening of Russian FIG at the expense of Belarusian enterprises as well as the including into this FIG of the Minsk Wheel Tractors Plant in order to produce tractors for the strategic rocket troops as well as for the complex „Topol-M".

Here is the list of the pro-Russian managers of the industrial enterprises:

**Vladimir Volkov** — director of Minsk Wheel Tractors Plant: „We'll show Mr.Klebanov the production, the achievements, we'll show that we have kept the potential and have got everything for fulfilling any orders, even very complex".

**Vyatcheslav Bursky** — director of Belarusian Optic Mechanical Association: „We hope that the enlivening of Russian specific market will also affect us. Mr.Klebanovs visit shows that we have common interests. Even now we appreciate positively our work in Russia and we have never lost contacts in out sphere. Today we hope, that they will be more intensive".

**Valery Lyepnyakov** — vice-president of the state scientific productive association (concern) for precise machinery „Planar": „Putin has come to rule Russia and MIC is reviving. This will correspondingly come to us. Russia can't build her microelectronics without „Planar". They have admitted this and have included us into their program of very large scale integration (VLSI)".

**Vasyli Dyackoy** — vice-president of AAT „Peleng": „In my opinion the cooperation on of Belarusian and Russian enterprises working in the sphere of defence is widening. *We're considered almost officially* **a Russian enterprise**, we work according to their standards, obtain licenses from Russian institutes. We work now for the defensive order of Russia, mostly with Russian enterprises for other countries. After defensive order becomes larger this cooperation will be naturally more oriented to Russia". (Belarusian Business Newspaper 11.02.2000,N20)

**3.** The government's policy in the spheres *of finances, landowning, taxes, customs, prices, investments is carried out in order to prevent appearing and strengthening of active businesspeople in Belarusian economy.* In fact the government's work is against the people of Belarus and continues to destroy the economy of Belarus. Here are some examples:

— The prices for the goods produced by the enterprises of Belarusan food and manufacture industry have been directivity kept on a low level and are mostly taken out of the country and make excess profits for dealer's firms (mostly Russian). Belarusan enterprises, which produce consumer goods, have to buy more expensive products made in Russia and the prices

for these consumer goods exceed the purchasing power of the population. This keeps Belarusian enterprises on the edge of surviving and most of Belarusian population on the edge of poverty.

— At the end of 1999 the government raised the customs duty for car transporting and limited the weight of the trailers from 24t to 21t. That brought immediately down cargo streams through Belarus and budget income.

— On March, 7, 2000 Lukashenka's decree N 117 has put under contril the whole commerce and has introduced restrictions on the mediation activity;

— Orders have been issued to stop to sale the articles to the private employees and firms, etc.

4. To hide the activities on incorporating Belarus into Russia all mass media: TV, radio, press are kept under control. As it became known Moscow insisted on eliminating the agreement that had been reached with the help of OSCE in Minsk about giving the Belarusan opposition 1,5 minutes a day on Belarusan TV.

*In this situation the Belarusan society has the main task to defend the independence of the country, to resist the occupational activity of Russia. It is impossible to stabilize the democracy, to protect the human rights and to develop the national culture, language and shool without the independent state. It is possible to defend the independence only by the consolidated Belarusan society, by the strong liberation force and by the legal Belarusan power based on them. We hawe to mobilize all the forces and resources to resolve this problem.*

But something is wrong in this process. The Lukashenka's regime and the Russian special services are using the differences of the opposition's political forces in Belarus (this differences have been provoked by the regime and Russian occupants and are extended and deepened constantly). They are using also the technologies of activity of the international organizations and mostly of the OSCE, which are engaged in the general democratic forms of activity: human rights, democratic elections, negotions. As a result of this activity „the problems", which don't have perspectives, have been accepted as the priorities in 2000: the struggle for the democratic elections to the having no rights „chamber of representatives" (pseudo-parliament of Lukashenka) and the struggle for the negotiatiations about the formation of the democratic electoral law to this pseudo-parliament.

The Russian special forces are sustaining and provoking through different channels the processes in Belarus to hide the main process — the occupation of Belarus. They are using for this scope „the round tables", „the congresses of the democratic forces" and even the presidential pseudo-elections in spring 1999. **They are forming the proper opposition against Lukashenka selecting the persons from the former communist nomenclature and fixing attention on Lukashenka.** They are using also the activity of the consulting and monitoring group of the OSCE in Minsk. This group is continuing to prepare the negotiations between the opposition and the Lukashenka's regime even after July, 20,1999, when Lukashenka has lost the legitimacy in accordance with the Constitution of 1994, is yielding constantly to the regime and has declined the main condition of the negotiations — to stop activity of the regime on „the integration" of Belarus into Russia. The activity of the OSCE has been discredited. The special forces have taken into consideration this situation. They have elaborated a project and applied it in Belarus: the negotiations have been changed by the gossip „of everybody about everything". This „dialog" is directed by the Lukashenka's administration.

The international European organizations are obstinately considering the situation in Belarus as an inner problem of our country. They don't notice the aggressivety of Russia. They are leaning upon the past of anti-Lukashenka's opposition for which the independence of Belarus is a secondary problem. Since March, 1, to March,4, 2000 a European parliamentary group visited Belarus: Mr. **Adrian Severin**, chairman of the special group on Belarus of the Parliamentary Assembly of the OSCE; **Terry Davis**, chairman of the political committee of the Parliamentary Assembly of the EU; **Jan Marinus Viersma**, chairman of the subcommittee on Belarus of the foreign affairs committee of the European Parliament. These representatives have met the consultation group of the opposition's parties and expressed the propositions to the parties to take part in „the dialog". Such propositions correspond to the Russian interests. They try to engage even though a part of the opposition in the „elections" to the pseudo-parliament and than to legitimize its status and thus to legitimize the Lukashenka's regime. Only such „opposition" will participate in the elections, which don't raise the task to defend the independence of Belarus. It is possible that a small group of the „opposition's" Mps will be „elected" to the pseudo-parliament to demonstrate the „democratic" character of this elections. Russia is undertaking the efforts to influence the European organizations to acknowledge the Lukashenka's regime and to legitimize the incorporation of Belarus. Russia is preparing even to change Lukashenka to a more obedient person. The pseudo-parliament has a significant role in these plans.



***Міліцыя арыштоўвае беларуса. Менск.***

Europe underestimates the growing danger from the Russian imperialist forces of revenge. The aggressivity of the criminal forces, which came to power in Russia, is known. When Mr. Putin has been appointed to the supreme post in Russia, the same forces became leading in Russia, which have led Lukashenka to power in Belarus in 1994. *These forces represents the system of the KGB of the USSR.* The essence of the policy of these forces is demonstrated in Chechnya and Belarus. It is erroneous to reason that the Russian imperialist forces will be satisfied by the occupation of Belarus and will not continue the expansion in the first place in Lithuania and other Baltic states. The Russian politicians and military men have just promulgated their plans to strengthen the military district in Kaliningrad region and its cooperation with the Belarusan armed forces.

The Belarusan society is resisting more actively against the increased processes of Russian occupational policy. The majority of Belarusan citizens are again the union of Belarus and Russia. They understand the essence of the Russian policy adequately. They don't will give up the Belarusan boys to the Russian army. These factors are consolidating the Belarusan society. The special services were not able to destroy the main organization of the national-liberation democratic forces — *the Belarusan Popular Front. The Belarusan Popular Front* has been reformed after the pseudo-elections in May 1999. *The Conservative-Christian Party — BPF has taken upon itself the responsibility to resist to the Russian occupation and to consolidate the Belarusan society. This name was accepted by the Party of the Belarusan Popular Front on its 4th Congfess in September 1999.*

*The BPF Party* is undertaking the efforts to explain to the international society how dangerous are the Russian imperialist forces.

The preservation of the independence of Belarus is one of the main factors of the European security.

It is Europe's interests not to allow to Russia to occupy Belarus.

2000,03,20 **Siarhei PAPKOU,**
***Deputy Chairman of the Conservative-Christian Party — BPF***
*(Пераклаў зь беларускай мовы Валеры Буйвал)*

## STATEMENT

Belarus is passing through a dramatic period of its history. The dictatorial Lukashenka's regime together with its Moscow bosses is preparing to surrender definitively the Belarusan State to the Russian empire. All the destructive political actions held by the Kremlin colonialists and by the subordinated to them marionette Minsk regime serve to this aim. Russia is carrying on the economical and information war against Belarus. The last months a very big number of the Russian functionaries, civil and military officials have been appointed to the commanding posts of all the levels. This is one of the manifestations of the first stage of the occupation. ***So the Russians represent already 90% of the Belarusan government, the absolute majority of the officers in the Belarusan army, police and special services.*** The legitimization of these occupation processes has been planned in order to liquidate the independent Belarusan State. These planes had been formulated in the criminal agreements „on the formation of the united state of Belarus and Russia" signed by the illegitimate pseudo-president A.Lukashenka and „ratified" by the illegitimate pseudo-parliament of the Belarusan dictator. The project of the elections in October this year to the „chamber of representatives" (the pocket parliament of the dictator which doesn't has any rights) had been prepared namely in order to legitimate the liquidation of the Belarusan State and to incorporate it into the Russian Federation (Russian empire). Undoubtedly the pseudo-parliament elected in conditions of the dictatorship and under the impudent domination of the Russian occupation forces will execute the order of the dictator. It will legitimize the dictatorial regime if the Occident would support it. And above all it will legitimize the liquidation of the independent Belarusan State and its incorporation into Russia. The successful conclusion of this project will cause the catastrophic consequences. A considerable and most active part of the Belarusan society will never be agree with the Russian occupation and will defend the independence and freedom of the Fatherland by all the methods. It is impossible to suffocate Belarus calmly. The Belarusan people will not be agree with a new Munich deal. The European community will have one more Kosovo crisis. The stability in Belarus and in Europe depends on the European democratic countries and European organizations able to stop the processes of the occupation of Belarus by Russia.

The democratic Belarusan society is observing with astonishment how some political circles in Western Europe, especially the German diplomacy, are promoting the Russian occupation politics in Belarus. *The OSCE Advisory and Monitoring Group in Minsk head by the German diplomat* **Mr. Hans-Georg Wieck** *is one of the instruments of this anti-Belarusan politics.* The OSCE AMG is actively engaged in the process of the preparation of the elections to the dictator's pseudo-parliament. Mr. Wieck and his officials are travelling in Belarus making the propaganda and preparatory campaign to the pseudo-elections. The considerable resources have been assigned through the OSCE to the propaganda campaign and the training of the observers. We have impression that the OSCE is promoting the processes of the occupation of Belarus and of the expansion of the Russian empire. This activity can cause only the acute political crisis in our country and the destabilization in the whole Eastern and Central Europe.

We find it difficult to believe the OSCE AMG doesn't know that the dictatorial regime didn't accomplish any conditions proposed by the international community to acknowledge the recults of the elections. Undoubtedly it knows that. And it is acting consciously.

In connection with this we demand:

*— to stop the activity of the OSCE Advisory and Monitoring Group in Minsk on the propaganda and preparation of the pseudo-elections;*

*— not to send the foreign observers to Belarus during the pseudo-elections in October 2000;*

*— to change the head of the OSCE AMG in Minsk Mr. Wieck, he has exhausted his possibilities in Belarus.*

***The Belarusan Popular Front „Adradzennie" and the Conservative-Christian Party — BPF***
*25 August 2000*

***Yury BELENKY***
***Acting chairman in Belarus of the Belarusan Popular Front „Adradzennie" and of the Conservative-Christian Party — BPF***

*(Пераклад зь беларускай мовы Валеры Буйвала)*




***THE HUMAN RIGHTS ARE NOT THE MAIN PRIORITY FOR THE BELARUSAN PEOPLE BUT THE INDEPENDENCE AND FREEDOM. BECAUSE „THE HUMAN RIGHTS" CANNOT EXIST UNDER THE OCCUPATION.***

Беларускія Ведамасьці
Беларускае выданьне
У супрацоўніцтве зь Беларускім Выдавецкім Таварыствам ў Амэрыцы
Рэдакцыя: Зянон Пазьняк, Галіна Палачаніна
Адрас рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127
тэл./факс: (+48 22) 628 76 73